

КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

**Леанід Дранько-Майсюк**

# Кніга для спадарыні Эл

---

**Проза, вершы, п'еса**

Мінск
«Кнігазбор»
2012

# Нервовы раман

Наладзіўшы ад цябе неабходныя ўцёкі, я апынуўся ў Дубліне; мог апынуцца ў Берліне, Варшаве, Баранавічах (дзе заўгодна!), аднак жа лёс выпадкова прывёў мяне ў сталіцу Ірландыі, і свой нядоўгі ірландскі побыт я ўзбагаціў яшчэ і кароткім шпацырам па Лісабоне і Парыжы.

Гэта былі ўцёкі дзеля супакаення, бо наш нервовы раман, у якім верхаводзіла ты, займеў далёкі ад спакою кухонны змест.

Ты пачала раздражняць мяне, — ужо не цешыла тваё багацце, не чаравала твая рызыкоўнасць, не захапляла люстраная прыгажосць, не прыцягвалі тэатральныя звівы твайго нораву, не кружылі галаву невераемныя прапановы; не радавала патрабаванне, каб я штодня складаў вершы, і ўжо не замілоўвала тое, што ты дасканала ведаеш французскую і польскую мовы; нават мелісныя твае валасы страцілі для мяне прывабнасць.

Божа, а яны мне так падабаліся!

Я раптам адчуў: каханне — небяспечнае, калі верыш, што яно бясконцае, і зразумеў: раздражненне і мой характар — з’явы роднасныя; усё гэта паказвала: прыйшоў час развітацца, і развітацца канчаткова.

Я неўзлюбіў тваё пачуццёвае панства, халодны розум і разлічаную юрлівасць; неўзлюбіў і тваю мару купіць у Менску вуліцу (не дом, ці хай сабе некалькі дамоў, а менавіта цэлую вуліцу!), і ўзненавідзеў тваё крэда: грошы — гэта паэзія багатых...

Не ўпадабаў таксама і тваю філасофію: лепшае для жанчыны, калі яна ні жонка і ні каханка!

Насцярожвала, не давала спакою і твая празмерная схільнасць да картаў; варта сказаць: у карцёжніцтве ты стварала радзівілаўскі маштаб; зазвычай пачынала буйны карцёж сярод ночы і ў такія момантыператваралася ва ўпартую, нават ваяўнічую істоціну; на ігру заводзілася імгненна: гром ці град, суцэльны змрок ці мароз — перашкоды для цябе не існавала ніякай! — ты ляцела ў казіно, збірала вакол сябе розных прайдзісветаў і прайдзісветак, праседжвала з імі да раніцы, гуляла апантана, гарачліва, самазабыццёва, з вялікім смакам і салодкім імпэтам — цябе немагчыма было спыніць; не сказаць, што ты не выйгравала, часам табе шанцавала, і нават вельмі, аднак жа часцей ты прагульвала, зноў жа па-радзівілаўску прасаджвала немалыя грошы, і не толькі грошы — аднойчы з незвычайнай лёгкасцю прамантачыла адно са сваіх лецішчаў...

Пра такіх, як ты, кажуць: шырокая натура...

Так, ты была шырокай натуры, шчодрага прыроднага замесу і праз авантурную сваю таварыскасць мела знаёмства з суддзямі і міліцэйскімі начальнікамі, папулярнымі журналістамі і вядомымі палітыкамі, а таксама з патрэбнымі чыноўнікамі, вайскоўцамі, лекарамі, гандлярамі, банкірамі...

Ты зусім не ўмела крыўдаваць, амаль не бывала злоснай, ніколі і, можна сказаць, нікому не шкадавала грошай; калі што якое, то ахвяравала ўсім — як той казаў, і зоркамі, і бульбай...

Словам, у табе было намешана ўсяго...

Іншым разам ты дзіўна, неяк па-школьнаму выхвалялася: «У мяне такі ж моцны характар, як і ў Еўфрасінні Полацкай!..», а часам дык наогул бяздумна блюзнерыла: «Ісус Хрыстос лячыў людзей ад усяля-

кай немачы і за гэта займеў Галгофу... Калі ж ён па-сапраўднаму ўваскрэсне, то, убачыўшы такую жанчыну, як я, бездапаможна ўздыхне і самохаць вернецца на сваю камяністую гару...»

Прызнаюся, балюча даймала тваё «ўсёведанне» пра мяне, як і выяўныя намёкі на маю местачковую адукаванасць — аднаго ж разу з пуставатым усмехам ты атэставала мяне, як ахвяру савецкай школы і ўласнай ляноты...

Ад сваіх бацькоў, нафтавых спрытнюгаў, ты займела інтэлект, пацалаваны цынізмам!

О, твае бацькі — уладальнікі грашовага звону; гэта, вядома ж, ад іх тваё ранняе багацце; яны — майстры шахермахерства і пранырства; ім лёгка сказаць пра любога любое, аднак цяжка сказаць любае (хіба што пра цябе); яны — з таго жалезнага поля, якое ўмее само сябе засяваць; яны — цвярозыя рэалісты, абаронцы карыслівасці, распаўсюднікі жываглоцтва, новыя паганцы; іхні галоўны ідал — нафтавая помпа...

Зрэшты, гаворка не пра іх...

Я пазнаёміўся з табой у Жаночым інстытуце, мяне запрасілі пачытаць вершы...

Калі падыходзіў ужо да інстытуцкага будынка, то на беразе Свіслачы ўбачыў вялізнага чорнага дога... з белай ружай у пашчы!

Што і казаць, незабыўны малюнак!

Гаспадыня дога, ужо даволі немаладая кабета, прымаючы ружу, з запытальнай хітрасцю паглядзела на мяне: «А ты, напэўна ж, яшчэ ні разу ў зубах не прыносіў жанчыне кветкі?!»

Сапраўды, ні разу, у думках згадзіўся я, таму ўпершыню ў жыцці пазайздросціў сабаку!

«Чакай, — нібы гаманіла далей праніклівая старая, — жанчына табе сама *гэтак* прынясе кветкі!»

Містыка нейкая дый годзе, бо сапраўды па маім выступленні адна студэнтка (а гэта была ты), сціскаючы меліяднымі вуснамі (!) сцяблінку, паднесла мне залацісты даронікум...

Што гэта?

Звычайнае супадзенне, ці гаспадыня чорнага дога — чараўніца, ведзьма?!

Я так і не разабраўся тады, але адчуў, што з гэтага моманту рэчаіснасць аддалілася ад мяне на тую адлегласць, на якой звычайна смерць знаходзіцца ад жыцця.

Недзе праз тыдзень, калі мы сустрэліся ў кавярні «Іспанскі куток», ты прапанавала мне гульню — пачала ўгадваць, *хто* я і *што* я (словам, стала маляваць мой псіхалагічны партрэт), і амаль усё ўгадала.

Партрэт выйшаў такі: я зайздрошчу заўсёды чужой упэўненасці, і мяне мучыць свая няўпэўненасць; я ўлюбёны ў вершаскладанне і баюся жыцця; я страціў адчуванне парадку і разуменне таго, што час, які прызначаны дзеля парадку, увасабляецца ў спакой; я — недаверлівы, таму ці не ў кожным бачу злодзея, які толькі і чакае моманту, каб улезці ў кішэню маёй душы (ты так і сказала: «...у кішэню маёй душы...» — запамінальны выраз!); я ахоўваю сваё незразумела кім уколатае самалюбства і слязлівымі летуценнямі атручваю ўласнае існаванне; я скіраваны пераважна ў мінулае, і маю кроў халодзіць лянота; таксама ж маю кроў песціць разумовая санлівасць, і ўсё гэта сведчыць пра мой даволі звычайны інтэлект і недастатковую адукацыю; урэшце — я шмат думаю пра нязначнае і мала працую...

Партрэт склаўся праўдзівы — то-бок, непрывабны.

Зрабілася нават крыўдна.

Але крыўду заўсёды трэба хаваць.

— О, дык вы прачыталі ўсе мае кніжкі, усе інтэрв'ю! — з удаванай весялосцю ўсклікнуў я.

— Прачытала. Я наогул вывучала вас і сачыла за вамі. Можна сказаць, хадзіла следам. Адкрыюся, я з намерам зладзіла ваша выступленне ў нашым інстытуце!

— З намерам? Не разумею...

— Ты павінен дапамагчы мне...

— «Ты»?! Мы перайшлі ўжо на «ты»?

— Я перайшла...

— І з якой гэта хвіліны?

— З гэтай хвіліны... З гэтай маёй *просьбы!* Дык вось, ты павінен мне дапамагчы...

— Дапамагчы?! У чым?

І тут абсалютна спакойна, нібыта гаворка ішла пра жаданне выпіць шклянку гарбаты, ты растлумачыла, *што* я павінен быў зрабіць.

Пачутае вострым нажом увайшло ў маё горла!

— Чаму я, а не хто-небудзь іншы?

— У цябе выдатнае пачуццё рытму. Невыпадкова ж улюбёны ў вершаскладанне. З-за гэтай якасці я цябе і выбрала! — на поўным сур'ёзе пракаазала ты.

— Выбрала?!

— Не здзіўляйся і не рабі выгляд, што табе непрыемная мая просьба!

— Добра... І калі я павінен?

— Ну, скажам так, тыдні праз два...

— А чаму не сёння ці заўтра?

— А табе, мой дарагі, патрэбен час, каб атрымаць адмоўны вынік...

— Які яшчэ вынік?!

— Я хачу ведаць, што ты здаровы!

Прыгожанькая цынічка, амаль удвая за мяне маладзейшая, распачала са мной бессаромную гульню, і гэта гульня авалодала мною.

Накіраванне на даследаванне маёй крыві было выпісана, і, чакаючы *адмоўнага выніку*, я хваляваўся, непакоіўся; не, сказаць трэба па-іншаму: мяне ажно трэсла да таго дня, да той цягучай, як цёплая смала, хвіліны, пакуль урэшце не даведаўся, што вынік даследавання, дзякаваць Богу, сапраўды адмоўны...

Ты выйшла з дзявочасці гэтак жа звыкла, як, скажам, звыкла выходзяць на вуліцу з якой-небудзь абутковай крамы.

Ты заўсёды дамагалася таго, чаго хацела, і заўсёды рабіла тое, што табе хацелася рабіць.

Цябе знаравіў час.

Вядома ж, у табе не маўчала і кроў тваіх прагавітых бацькоў, аднак жа час ператварыў тваю кроў у сапраўдны агонь.

Ты мецiла ў гэтым агні спаліць сваю будучую старасць і не думала пакуль станавіцца ні жонкаю, ні маці.

Ты ведала, што табе трэба, а што не...

Мая незадаволенасць нашым раманам узрастала, бо ты не давала ягонаму сюжэту вольна дыхаць.

Я разумеў: цябе немагчыма кахаць, бо твая душэўная нарванасць была большай за тваю знешнюю прыгажосць, аднак жа такім, як ты, ідыёты-лірыкі прысвячаюць свае рыфмаваныя слёзы...

Трэба сказаць: ты цалкам адпавядала свайму імені.

Ясная справа, ты не магла звацца Веранікай, Магдай, Ганнай ці, скажам, Алесяй; ты звалася Эл (спадарыня Эл!) — такое нязвыклае імя было яшчэ адным увасабленнем тваёй свавольнай натуры!

Часам мне здавалася, што ты пародыя на *Настасью Филипповну*; што табе ў тры разы болей гадоў, чым у пашпартнай сапраўднасці, і ты — тое горшае, што ёсць у характары Венеры; урэшце — ты каралева Бона, якая не вярнулася ў Мілан...

— Паглядзі, калі ласка, на мяне! — аднаго разу папрасіла і пачала распранацца.

Я паглядзеў і на тваім жываце ўбачыў свежую татуіроўку.

— Гэта што?!

— Лілеі! Ілюстрацыя да тваёй песні «Сон лілей»!

— А я падумаў: счэпленыя павукі!

— Ну ты і скажаш... Я хацела спачатку выкалаць Мірскі замак, але падумала: не, лілеі ўсё-ткі лепш!

— Не разумею цябе?

— Я даўно марыла *гэтак* сябе ўпрыгожыць...

— Цела само па сабе прыгажосць! Пляміць яго татуіроўкай — глупства!

— Чаму?

— Нельга ўпрыгожваць прыгожае!

— Ты філосаф, які не мае сваёй бочкі!

— Аднак жа маю свае абручы!..

Мусіць жа, з гэтых недарэчных «павукоў» і пачалося яно, — маё павольнае аддаленне ад цябе, бо калі глядзеў на тлустую хімічную пляму, якая назаўсёды завалодала тваім жыватом, то адчуваў сваё мужчынскае бяссілле...

У Менск я вярнуўся ўжо гатовы да развітальнай гаворкі з табой; вярнуўся апоўначы і, вырашыўшы пакінуць на дзень гэту не вельмі прыемную гаворку, на чыгуначным вакзале падараваў табе адамантавую сініцу — адмысловую ірландскую заколку.

Ты адразу ж прыбрала ёю свае мелісныя валасы:

— Якое супадзенне! Сёння раніцай у мой пакой заляцела сініца, і я тут жа ўспомніла сваю дзіцячую мару... Некалі марыла, каб сініца жыла ў маіх валасах!

— Дзівацкая мара...

— Люблю дзівацкія мары... Ну, што новага за кардонам? Як твая любая Еўропа?.. Еўропа — дзяцінства!

Мне вельмі падабаецца гэты твой вобраз! Ён такі нерэальны! Што, Еўропу яшчэ не паглынула глабалізацыя? У нас так яе баяцца! Асабліва вы, пісьменнікі... Нашы продкі-паганцы, мусіць, гэтак жа баяліся хрысціянства, як пісьменнікі сёння баяцца глабалізацыі!

Я не адказаў.

— А, памятаеш?! — імгненна памяняўшы тэму гаворкі, ты паказала вачыма на высокую прывакзальную таполю.

Вядома ж, я памятаў...

Аднойчы ля гэтай таполі ў змроку Бабруйскай вуліцы ты купіла дзве кніжкі (французскую і польскую) — зборнікі вершаў Верлена і Галчынскага.

Кніжкі (не прозу, а толькі паэзію і на розных мовах!) прадаваў саракагадовага веку чалавечак з армянскімі сумнымі вачыма і горкімі прыкметамі безграшовай інтэлігентнасці.

У першыя паслясавецкія месяцы, калі запанаваў немалы страх: а што ж будзе далей? а як яно пойдзе? а як будзем жыць? а навошта ўсё гэта? — такія людзі мізарнелі на вачах, нават высокія і станістыя фізічна гнуліся, здавалася, рабіліся меншымі за саміх сябе.

Нэндза рые пад няўдачнікамі нябачныя ямы (няўдачнікі самохаць апускаюцца ў іх і таму здаюцца малымі!), і той небарака ўжо стаяў у такой яме...

Ён, дарэчы, быў добрага сярэдняга росту і шыракаваты ў плячах, аднак жа ягоная відавочна безабаронная беднасць мела такія трывалыя знакі, такую бачную выяўнасць, што ў маю памяць ён увайшоў амаль карлікам!..

Запомнілася яшчэ і такое — выступіўшы са сваёй нягеглай торбай з-за таполі, ён пахнуў царкоўным бэзам...

У нашым падыходзе да чалавека шмат што вырашае пах ягонага цела!

Неахайны не прывабіць і самай вялікай мудрасцю (прынамсі, напачатку), бо такога не надта хочацца слухаць.

Дапускаю: неахайнасць з'яўлялася немалой перашкодай і для распаўсюду хрысціянства!

У доўгай і небяспечнай дарозе апосталы абрасталі карой і, дапяўшы нарэшце да таго ці іншага места, да таго ці іншага паселішча, думаю, спачатку шукалі ў ім не лазню, а кафедру.

І гэта зразумела чаму.

Пасланнікі незвычайнага ратавання спяшаліся, ім хацелася хутчэй прамаўляць, вучыць, засцерагаць, пераконваць; ім хацелася тут жа абярнуць у сваю веру распусных ідалапаклоннікаў, аднак жа апосталаў па першым часе не вельмі слухалі і калі не пабівалі камянямі, то адмахваліся ад іх, як адмахваюцца ад брудных валацугаў...

Дык вось, ведаючы, якая яна змястоўная, філасофія чалавечага паху, я намерваўся прамінуць гэтага няшчаснага, аднак жа ты загаварыла з ім, ступіўшы бліжэй да таполі, на якую падаў млявы круг ліхтарнага агню.

Ад радасці, што нешта заробіць, саматужны кніганоша па-дзіцячы ўсхліпнуў і ўдзячна зняў свой падзёрты капялюш...

«Выберу тыя вершы, якія мне спадабаюцца, і памагу табе іх перакласці!» — так сказала тады.

Ведала, што я зайздросціў тым паэтам, якія адольвалі звыкласць, якія дзеля расы, што толькі на папараці ператвараецца ў золата, ішлі ў свет жабрацкай сцежкай і за асалоду магчымай небяспекі плацілі турэмнымі днямі.

Ведала, што я прыпадаў да любой магчымасці, каб абараніць сябе ад звыкласці, бо паверыў у правіла: той, хто бароніцца ад звыкласці, вяртаецца да маладосці...

Прыняўшы тваю прапанову стаць перакладчыкам, паспадзяваўся: «Раптам пашанцуе, і я пераадолею сябе?! Раптам і мной авалодае крыштальны холад бадзяжніцтва, калі па-беларуску прамоўлю вершы Верлена і Галчынскага?..Тады, магчыма, і маё жыццё здабудзе жоўць адметнасці! Тады, магчыма, навучуся лёгка жыць?! А гэта ж так неабходна, бо з гэтым усё звязана. Усё. Нават смерць... Лёгка хочацца памерці? То, каб сталася такое, навучыся лёгка жыць — цешыцца таму, што будзе, цешыцца з таго, што знікла, хлебны дух з царкоўным духам удыхаць на грудзі ўсе... Як бачна, мае думкі тады закруціліся ў нешта блізкае да свабоднага вершыка...»

— Дык успомніў? — ты вярнула мяне з успамінаў.

— Беднага кніганошу?!

— А-а, не забыў! Пакуль ты раскашоўваўся ў ірландыях і партугаліях, я выцягла яго, можна сказаць, з турмы і дала работу!.. Ён даволі незвычайная асоба. Чыстая душа і рукі залатыя! Любы замок за адну хвіліну адамкне!

— Што, па кватэрах лазіць?

— Лазіў! І больш не будзе! Але чаму лазіў? Не паверыш! Рабіў гэта з адной толькі мэтай... Вой, сапраўды не паверыш!..

— З якой такой мэтай?

— Каб на жаночым туалетным століку пакінуць кветкі!

— Кветкі?!

— Так... Выбіраў кватэры адзінокіх жанчын і прыносіў туды сціплыя букецікі... Проста цуд, я табе ска-

жу!.. Калі яго спаймалі, то, вядома ж, як банальнага злодзея, здалі ў міліцыю... Пра ягоныя прыгоды я даведалася з тэленавін і кінулася ратаваць дзівоснага рамантыка... Словам, выкупіла яго і вельмі здзівілася, калі пазнала ў ім нашага кніганошу! Дарэчы, ён вывучыў беларускую мову і ведае пра цябе!

Заінтрыгаваны, я не мог не спытаць:

— І дзе ж ён зараз?!

— У Паўночным завулку! Паехалі, пакажу...

У Паўночным завулку?!

Пра гэту менскую мясціну варта сказаць — прастора, у якой да дзяўчыны трэба звяртацца: Ваша прыгажосць, а да жанчыны: Ваша хараство.

Чаму?

Ды перш за ўсё таму, што там няма разлічанай празаічнасці — то-бок, не жывуць карыслівцы.

Я палюбіў Паўночны гэтак жа, як люблю тыя хвіліны, у якія разумею кожную сваю мару.

Драўляныя старасвецкія дамы завулка наводзяць на памяркоўнае думанне: «Калі чалавек — не толькі лямант юру і трыбуха, а яшчэ і ўвасабленне далікатнай задумлівасці, то ён усё ж такі авалодае сабой, супакоіць сябе разуменнем, што неабходнае да яго заўсёды прыйдзе ў неабходны момант... І сваёй прыгожай прысутнасцю дапаможа іншаму ўцішыць славалюбства, умерыць ганарыстасць, уціхамірыць пыхлівасць і фанабэрыю і дапаможа зразумець — шчасце знаходзіцца і ў магчымасці смяяцца з сябе...»

Пад уплывам такога думання лёгка можна паверыць, што ў Паўночным ужо адбылося тое, што ўрэшце павінна скрозь адбыцца ў хрысціянскім свеце: Евангелле перамагло царкву, святары па сваёй волі адракліся ад сану, храмы сталі проста прыгожы-

мі будынкамі, а людзям засталося адно — працаваць, чытаць Евангелле, думаць пра Ісуса Хрыста і любавацца храмамі.

На тое, што так станецца, вельмі спадзяюцца, дарэчы, радыкальныя мысляры...

Паўночны сваім бліжэйшым да чыгуначнага вакзала крылом ляжыць на ўзвышшы, і адсюль Менск унізе бачыцца, як узножжа пакуты.

Падабенства сімвалічна ўзмацняецца, калі з гэтага ўзвышша глядзець на адноўленыя вежы касцёла Святога Цела, уяўляць схаваную Нямігу, палохаць сябе турэмным Пішчалаўскім замкам, прамаўляючы: «Божа, неба над турмой заўсёды прыгожае!»; урэшце, — калі думаць пра лёс Янкі Купалы і Юркі Лістапада...

Калі думаць пра іхні пакутлівы лёс...

Менавіта ў Паўночным я расказаў табе, як іх угаворвалі, вербавалі, палітычна спакушалі, патрабавалі зрабіць так, «як трэба зрабіць»; я расказаў, *чым* ім пагражалі і *як* спрабавалі завесці ў ганьбу.

Але яны вытрымалі, і таму, калі ёсць у нас Юрка Лістапад, то не варта наракаць на адсутнасць нацыянальнай непахіснасці; калі ёсць Янка Купала, то не трэба казаць, што беларускае слова не мае магічнай вагі...

У Паўночным жа раскрыў табе і гэту дзівосную гісторыю...

У чэрвені 1942-га ў рэстаране гасцініцы «Масква» Янка Купала сустрэўся з Пятром Глебкам і Максімам Танкам.

Рэстаран быў упрыгожаны пальмамі, у пальмах спявалі канарэйкі, з галіны на галіну пераскоквала малпачка, а ў глыбокім блакітным фантане плавала вялікая чырвоная рыба.

Вядома ж, такі экзатычны інтэр’ер не вельмі стасаваўся з настроем ваеннага часу, аднак жа схіляў да рызыкоўных мрояў...

Раптам грукнуў пісталетны стрэл, — п’янаваты лётчык, бліснуўшы на кіцелі залатой зоркай, паспрабаваў падстрэліць рыбіну.

Яго ласкава супакоіла прыгажуня-афіцыянтка, і лётчык-герой, схаваўшы пісталет, пачаў да яе заляцацца.

Заляцанню перашкодзіў чалавек у форме НКУС, ён запатрабаваў здаць зброю.

І тут раззлаваны авіятар адпаліў па-дзіцячы геніяльную штуку, — нечакана для ўсіх спіхнуў тылавіка ў фантан.

Гледзячы, як зняважаны тылавы служка марудна вылазіць з вады, Янка Купала скупа сказаў:

«А папера тоне...»

Сказаў нешта такое, што не мела відавочнай сувязі (прынамсі, на першы погляд) з тым, што здарылася, але сказаў так упэўнена, нібыта ведаў: нспадзяваны скандал у рэстаране павінен быў адбыцца...

«Папера не тоне, дзядзька Янка!» — дзеля наіўнай нагляднасці Пятро Глебка кінуў у ваду блакнотны лісток, які, вядома ж, застаўся на яе паверхні.

Тады з маўклівай разважлівасцю Янка Купала накрэсліў некалькі слоў, і паперка з ягоным надпісам, павалі цямнеючы, апусцілася на блакітнае дно фантана...

Гэту гісторыю я пачуў ад Максіма Танка ў 1993 годзе — у пачатку нашага рамана, калі мяне яшчэ нічога не раздражняла ні ў табе, ні ў нашых адносінах, ні ў сваім характары, ні ў палітычным часе; калі яшчэ быў упэўнены, што мы разам (менавіта разам!) абавязкова ўгадаем тыя словы песняра, якія надалі звычайнай паперы вагу каменя...

Ты адпусціла шафёра.

З чыгуначнага вакзала дарога да Паўночнага зусім кароткая, — па трамвайнай Бабруйскай пад віядук і трохі далей паўз Тэатр музычнай камедыі...

Па выбітых бетонных сходах мы падняліся ў завулак, і адзіная ў бружмелевым небе заранка сваім доўгім лазурковым промнем пацалавала адамантавую сініцу, што ўжо заснула ў тваіх валасах.

І, пэўна ж, ад гэтага пацалунка ўдалечыні ўзнік празрысты цень, нібыта запаленую свечку наблізілі да курынага яйка...

На спадзе, дзе праходзіла Нямецкая вуліца, неонава свяцілася будка-вартоўня, — такія будкі звычайна можна ўбачыць ля варотаў замежных пасольстваў.

Па завулку, які спаў, і спаў так ціха, што здавалася зусім адмёр, мы паволі наблізіліся да вартоўні.

Калі дзверы яе расчыніліся, адразу ж моцна запахла царкоўным бэзам.

— Пазнаў? — ты паглядзела на мяне задаволена.

Так, я пазнаў...

— Прывітанне, Егішэ!

— Прывітанне, спадарыня Эл! — кніганоша выйшаў з будкі і, як мне здалося, угодліва схіліў галаву.

— Ці ўсё ціха?

— Усё ціха, спадарыня Эл...

— Пазнаёмся, Егішэ, гэта... — ты назвала маё імя.

— Я чытаў вашы вершы! — прыязна прамовіў Егішэ...

За час, што мы не бачыліся, ён быццам падрос, ва ўсякім разе прыкметна памажнеў і ўжо не выглядаў карлікам.

— Я наняла Егішэ ахоўваць Паўночны! — ты паглядзела на мяне ўсё з тою ж выяўнай задаволенасцю.

— Ахоўваць Паўночны?! — тут я не мог не здзівіцца.

— Я купіла завулак...

— Купіла?!. У каго?..

— У дзяржавы! У каго ж яшчэ! — цвёрда адказала ты.

Па гэтай добра мне вядомай нежаночай цвёрдасці ў тваім голасе я зразумеў: не жартуеш.

— А жыхары? Ты набыла завулак разам з яго жыхарамі?!

— Так, разам з імі, але яны пакуль пра гэта не ведаюць. Зрэшты, мне яны не замінаюць. Хочуць тут жыць, няхай жывуць. А захочуць выбрацца адсюль? Калі ласка! Я набуду ім кватэры!

— Навошта табе ўсё гэта?

— Хіба забыў?! Я ж марыла прыдбаць у Менску вуліцу! І вось мара спраўдзілася... Я ведаю, гэты завулак табе вельмі падабаецца. Я падару табе яго на твой дзень нараджэння!

— Разам з вартаўніком? — з'едліва спытаў я.

— А што ў гэтым кепскага, калі разам?! — засмяялася ты. — Праўда, Егішэ?

— Праўда, спадарыня Эл! — згадзіўся Егішэ, і нешта для мяне жыццёва-зразумелае прагучала ў яго ным адказе.

Я прыгледзеўся да інтрыгоўнага армяніна і раптам адчуў: гэтае дзіця Арарата — твой брат па рызыцы, у ім жыве часцінка цябе самой.

Вось чаму ты выкупіла яго ў міліцыянтаў!

А тое, што ён нішкам разносіў няшчасным кабетам красачкі, — ружовая паэзія, якая табе, вядома, спадабалася, аднак жа не яна расчыніла твой тоўсты кашалёк...

— Вы любілі прыносіць самотным жанчынам кветкі? — з прыкметнай цікавасцю спытаўся я. — З чаго ўсё пачалося?

Егішэ ажывіўся, было бачна — упадабаў маё пытанне:

— Усё пачалося з вельмі чуллівай гісторыі. Я рос без бацькі, мама гадавала мяне адна... Аднойчы над нашым дваром нізка праляцеў аэраплан, з якога ўпалі кветкі. Я хацеў падараваць іх маме, але тут у двор убегла наша суседка, старэйшая за мяне дзяўчына, і забрала букет. Мне зрабілася крыўдна, я нават заплакаў. Мама ж мяне супакоіла, яна сказала: малады лётчык кінуў кветкі нашай суседцы, але не пацэліў у яе двор. Лётчык заляцаецца да яе... Ты не плач, а хутчэй расці, і калі вырасцеш, то заўсёды адзінокім жанчынам прынось кветкі...

— Сапраўды, вельмі чуллівая гісторыя... Але чаму вы прыносілі кветкі ўпотай?

— А гэта вялікая асалода менавіта ўпотай ствараць жанчынам свята! — адказаў Егішэ.

— Кім вы сябе адчувалі ў такія хвіліны?

— Напэўна, донкіхотам...

— А можа, донжуанам?! — я не схаваў іранічнага ўсмеху.

— Не, не донжуанам... Прычына тут вось у чым, — разважліва праказаў Егішэ, — донжуанам не дадзена спазнаць такой асалоды, бо яны не ўмеюць быць незаўважнымі...

— О, на гэты конт Егішэ мае цэлую філасофію! — паведаміла ты. — Егішэ лічыць: ёсць проста мужчыны і дасканалыя мужчыны. Першыя — донжуаны, другія — донкіхоты. Каб стаць дасканалым, мужчына павінен пераадолець у сабе донжуана. Шлях сапраўднага мужчыны — гэта шлях ад донжуана да донкіхота, а не наадварот. Праўда, Егішэ?!

— Праўда, спадарыня Эл...

— Усё разумею... Дзяцінства без бацькі, просьба маці, донжуаны, донкіхоты, кветкі... Дарэчы, дзе вы іх бралі? Куплялі?! — з лёгкім недаверам я паглядзеў на Егішэ.

— На сціплыя васількі грошы знойдуцца ў любога жабрака! — голас у майго суразмоўцы пасур'ёзнеў.

— Не крыўдуйце, калі ласка, я хачу даведацца вось пра што... Павінен жа быць нейкі патаемны матыў! Што вас усё-ткі найбольш прымушала разносіць свае букеты?

— Гэтак я засцерагаўся яшчэ і ад жадання пакончыць сваё жыццё самагубствам! — Егішэ зрабіў выяўны акцэнт на прыслоўі «гэтак».

— Божа літасцівы! — не стрымаў я воклічу.

Егішэ спакойна тлумачыў далей:

— Дазнацца, дзе жыве забытая жанчына, нішкам прасачыць за ёй, каб выведаць, калі яна пакідае сваё жытло і калі вяртаецца ў яго, усё гэта ўздзейнічала на мяне, як уздзейнічае на мозг моцны алкаголь! Далей — незаўважна ўвайсці ў кватэру...

— Незаўважна ўвайсці ў чужую кватэру?! У чыстым выглядзе крымінальнае злачынства! — я адчуў нарэшце, што гэты рызыкант мне падабаецца.

— Так, я парушаў закон, але нічога не краў. Проста апускаў у вазу кветкі і, адчуўшы, што кроў мая пачынае нязвыкла і салодка шумець, тут жа выходзіў на вуліцу. Так я здабываў жыццялюбны настрой. Яго мне хапала звычайна на месяц, а тады зноў трэ было шукаць новую такую жанчыну... Словам, гэта быў дзейсны ратунак ад жадання павесіцца!

— Салодкі шум крыві адцягваў увагу ад вяроўкі?

— Адцягваў, і мне лягчэй жылося!

— А продаж кніжак не засцерагаў ад такога жадання?

— Кніжкі хутка скончыліся!

Сваімі пераканаўчымі, ураўнаважанымі адказамі Егішэ ўсё больш і больш забіраў маю ўвагу; заварожвала ягоная — скажу так! — дзіцячая адкрытасць, лёгкае жаданне гаварыць, а таксама ж падабалася адсутнасць у ім боязі, якая звычайна выяўляецца ў залежнай душы: а ці тое кажу? а ці не здаюся наіўным? а ці так, як хачу, мяне зразумеюць?..

— Усё, хлопчыкі, досыць! Пагаманілі! Колькі ж можна! — раптам весела выгукнула ты. — Егішэ, я здымаю цябе з дзяжурства! Тушы ў будцы святло! Едзем у найтклаб! У мяне ажно свярбяць далоні, прадчуваю вялікі выйгрыш!

Ты выклікала шафёра, бо табой авалодаў чарговы прыступ карцёжніцтва, у такі момант прасіць цябе не ехаць у казіно — адна марнасць.

Я быў стомлены (толькі што з далёкай дарогі — дарэчы, зручная прычына, каб развітацца дзеля дамашняга адпачынку і такім чынам падрыхтавацца да дзённай гаворкі з табой), аднак жа тое, што побач будзе Егішэ — хацелася яшчэ пацешыцца з ягонага таварыства, — прымусіла мяне згадзіцца з тваёй легкадумнай прапановай.

Так мы ўтраіх і апынуліся ў казіно.

Я адмовіўся брацца за карты, Егішэ, дзякуй Богу, таксама, а ты, пакінуўшы нас у асобным пакоі, адразу ж паляцела да карцёжнікаў, якія сустрэлі цябе бязладным і гучным воклічам радасці.

Нам прынеслі каньяк...

Егішэ загаварыў пра тое, што цывілізацыя кнігі, якая пераважна выхоўвала ў чалавеку памяркоўнага дарослага, на жаль, знікае, яе месца заступае цывілізацыя камп’ютара, цывілізацыя суцэльнай гульні, і яна ператварае чалавека ў дзіця...

— Па-беларуску камп’ютар лепш называць «асьв*е*тарам», — заўважыў я.

Егішэ падзякаваў і ўздыхнуў:

— Чалавека гвалтоўна перарабляюць у інфантыльнага гульца!

— Аднак вы не паддаліся чарам суцэльнай гульні і прадавалі паэзію, а не пустое чытво?!

— Паэзія — рэлігія тых, хто не дбае пра выгаду. А я пра выгаду якраз і не дбаю!

— Вы прадавалі толькі сусветную класіку?

— Я прадаваў чужое, а роднае заўсёды дарыў. Гэта вам! — Егішэ паклаў перада мной кнігу Чарэнца. — Навучу вас чытаць па-армянску, а вы дапаможаце мне глыбей спазнаць беларускую мову!

Ягоная прапанова спадабалася мне.

— Як вам жывецца ў нас?

— Армяне — нацыя свету. Мы навучыліся прыжывацца скрозь. Вось я... Кім толькі не быў, дзе толькі не жыў... Пачынаў з настаўніцтва, выкладаў у сумгаіцкай школе французскую мову... Калі ўсіх нас выгналі з Сумгаіта, давялося пабадзяцца і па Сочы, і па Маскве, і па Кіеву... Быў землякопам, дворнікам, слесарам, таксістам, грузчыкам на базары, нават у адной майстэрні рабіў ключы да замкоў...

— Вось адкуль уменне пранікаць у кватэры?! — я хітравата ўсміхнуўся.

— ...нават вартаваў кніжны склад... — казаў далей Егішэ, таксама ж хітравата ўсміхнуўшыся.

— Кніжкі адтуль?

— Можна сказаць, што і адтуль... Прыбіўся да вас, на Беларусь, а сябры мае, якія выжылі пасля Сумгаіта, апынуліся ў Еўропе...

Тут ён крыху памаўчаў і разважліва даказаў:

— Цяпер толькі і чуеш: у Еўропу! У Еўропу! Але, калі сур'ёзна, то з чым жа мы туды прыйдзем? З эмоцыямі, нараканнямі і бясконцымі крыўдамі?! Што мы можам там прапанаваць істотнага?! Я чытаў вашага філосафа Акудовіча, ён якраз пра гэта і піша... А спадарыня Эл казала мне, што вы любіце Еўропу...

— Гэта выдуманая, мастацкая любоў... Скажыце, спадарыня Эл сапраўды купіла Паўночны завулак?

— Купіла. Мусіць, яе бацькі спадзяюцца ў цэнтры Менска знайсці нафту, бо з лёгкасцю далі грошы на гэту незвычайную куплю! — іранічна выдыхнуў Егішэ.

— Калі там знойдзецца нафта, то ўсё навакол давядзецца адсунуць: і Тэатр музычнай камедыі, і чыгуначны вакзал, і лінію метро, і ўсе ўніверсітэты, і нават Дом урада! І, магчыма, гэты карцёжны палац... Менск зноў памяняе сваё аблічча! — я ад усёй душы засмяяўся, і ў гэты ж момант да нас увайшоў заклапочаны гаспадар казіно.

— Спадарыня Эл прайграе! — суха паведаміў ён.

— Хутка ёй пачне шанцаваць! — супакоіў я гаспадара, і ён пакінуў нас.

Мы дапілі каньяк.

— Што вы наогул скажаце пра нашу заступніцу? — раптам спытаў Егішэ.

— Яна ўмее патрабаваць. Ад мяне заўсёды патрабавала вершаў! — усміхнуўся я і дадаў. — А яшчэ яна ўмее трымаць грашыма!

Тут усмешка пакінула мяне.

— Аднак жа досыць. Усё засталося ў мінулым. Я пакідаю спадарыню Эл!

— Вы рызыкуеце! — усхваляваўся Егішэ.

— Рызыкую роўна столькі, колькі і вы!

— Што я?! Я толькі слуга, а вы ўсё-ткі яе мужчына...

— І да вас, і да мяне, і да ўсіх астатніх у яе абсалютна аднолькавыя адносіны. Мужчыны для яе — цацкі... Ведаеце, ёсць такое моднае слоўца *праект*! Я ненавіджу гэтае слоўца, бо яго цяпер вымаўляе і жук і жаба. Дык вось, гэта яе любімае слова! І таму я для яе не каханак, я для яе — *праект*! А цяпер вы для яе — *праект*! А пасля з'явіцца яшчэ нехта... У яе натуры ёсць нешта вампірычнае!.. Аднойчы гэта нават фізічна выявілася... Калі мы першы раз цалаваліся, яна мяне так балюча ўкусіла за язык, што ў мяне ажно слёзы бліснулі!..

— Праўда?! — збянтэжана ўсклікнуў мой слаўны бяседнік.

— Праўда... — пацвердзіў я.

Ён спачувальна ўздыхнуў і з ноткай неабвержнай наканаванасці сказаў:

— Я бачыў спектакль «Паўлінка». Мне растлумачылі, што Паўлінка — гэта ідэальная беларуска. Думаю, Паўлінка так і застанецца на сцэне, а ў жыцці будзе панаваць наша спадарыня Эл!

Зноў заявіўся гаспадар казіно:

— Спадарыня Эл прайграла Паўночны завулак. Вас абодвух яна пакідае ў закладніках, а мяне з калегамі вязе паказаць сваё прайгранае дабро!

Не чакаючы нашага адказу, гаспадар тут жа выйшаў, і ў масіўных дзвярах злавесна свіргатнуў ключ.

Утульны — са столікам на дзве асобы — пакой імгненна ператварыўся ў турэмную камеру; узорыстыя белыя краты на вокнах змястоўна ўзмацнілі гэта непрыемнае ўражанне.

Як для паліцэйскай прозы, то неблагі фортэль!

— Шэф, ахоўваць трэба? — пачулася ў калідоры.

— Не, не трэба! Паехалі са мной!..

У такія моманты дзеля супакаення звычайна кажуць нешта вынікова смешнае (прынамсі, гэтак робяць кінагероі), і я сказаў:

— Ляснуў мой падарунак да дня нараджэння!

— І маё вартаўніцтва! — дадаў Егішэ...

— Наша дабрадзейка зноў нешта задумала! Невядома, чым гэта скончыцца для нас?!

— Нічога благога не будзе! — упэўнена прамовіў Егішэ. — Давайце трохі пасядзім у спакоі...

І трохі мы пасядзелі моўчкі, пабылі ў спакоі, памаркоціліся, падумалі пра сваё, на ўсякі выпадак пералічылі тое, што было ў нашых кішэнях, а калі за дзвярыма сціхла мітусня і непатрэбнае нам тупанне, Егішэ звычайным сцізорыкам адамкнуў замок, і мы, пільнуючыся, праз кухню пакінулі казіно.

Выйшла ўсё файна, нас ніхто не затрымаў.

Развіталіся непадалёк помніка Міцкевічу — на рагу Нямігі і Гарадскога вала, якраз насупраць кавярні «Вяроза».

— Што будзеце рабіць далей? — спытаў я наўздагон свайго новага сябра.

— Вярнуся да кветак і адзінокіх жанчын! А вы?

— Напішу пра Чарэнца паэму! — адказаў я, а ў думках, гледзячы на помнік, прамовіў: «...а можа, я нешта Міцкевічу вінен?..»

## Ірландыя

*Ахвярую арфе*

1

Сініца-адамант, на твой далёкі спеў
Ляцеў я, да любых дзівос гатовы;
У Дублін трапіў і цябе займеў, —
Купіў у нейкім закуце партовым.

Мог не купляць, але ў тваіх вачах
І ў крылцах, што амаль спазналі стому,
Я прачытаў мне зразумелы страх:
«Не купіш — дык не вернешся дадому!

І давядзецца (Божа, сцеражы!),
Не маючы ні ласкі, ні прытулку
І роднае не маючы душы, —
Бадзяцца век па Джойсавых завулках;

І давядзецца нерваў карані
Выкідваць долу пры жабрацкай місе;
Прасіць, як міласціну, дзень пры дні
У Патрыка святога: заступіся;

Прасіць-маліцца й на крыштальны цуд
Былой выратавальнай акавіты,
Чакаючы збавення ад пакут
Пад вязам дублінскім святой Брыгіты...»

Страх эміграцыі — мой непазбыўны страх,
І каб не апынуцца ў эмігрантах,

Схапіў цябе і сціснуў у руках, —
Фальшывым засцярогся адамантам,

Прыкінуўшы: калі з усіх канцоў
Гнёт безграшоўя сцісне па вяртанні,
Цябе я здам аж за мільён *зайцоў*
У біжутэрыю «Цэнтральнае кнігарні».

2

Сініца-адамант, але чаму я тут?!
Няўжо свае апошнія даляры
Я выкінуў, каб нейкі ўбачыць цуд
У Дубліне, — аб чым бясконца марыў?!

Вядома ж, не... Не марыў ні аб чым...
Узбуджаны самотай ідылічнай,
Узяў квіток паветраны і з ім
Уцёк сюды ад звыкласці лірычнай.

Мог выбрацца зусім у іншы бок;
Ірландыя ж узнікла выпадкова,
Найперш таму, што авіяквіток
Быў упрыгожаны арфічнаю падковай.

А я люблю, люблю знаходзіць скрозь
Празрыстай арфы звонкую выяву,
Бо ў той выяве сонечнае штосьці
Пяе мне, што спакой вышэй за славу.

Спакоем жа, як марнасцю самой,
Я быў багаты ля білетных касаў,
І гэта вызначыла выбар мой,
Куды ляцець з імперыі калгасаў...

У самалётнай самапахвальбе
З нядаўняга кахання смешкі строіў
І павучанне рыфмаваў сабе
Не як паэт, а як цынічны стоік:

«Ты з арфаю жыві, не лямантуй,
Шчаслівы, што забыўся пра жанчыну,
Перад якою гнуўся, як халуй,
У кожную гадзіну і хвіліну.

Ты быў анёлам, лёкаем, слугой,
Але найперш ты быў яе паэтам,
Ды лёсу дзякаваць, што розум свой
Да самай рэшты не згубіў пры гэтым!

Занятак слаўны — што тут ні кажы! —
Занятак варты вартага мужчыны
Забыць зусім, да холаду ў душы,
Пустое хараство пустой жанчыны...»

3

Сініца-адамант, няхай арфічны шоўк
Арфічным упіваецца ядвабам;
Я ў Дубліне зялёны дом знайшоў
Паміж царквою і вясёлым пабам.

На міг здалося — гэты дом даўно
Атулены рахункам крэдыторскім,
Авеяны паветрам казіно
І славалюбствам змучаны акторскім.

На фрызе бард, паранены стралой,
Аплакваў мармуровай песняй страту

Мінуўшчыны, паэзіі былой
І розуму зямлі — арыстакратаў.

Непадалёку дыхала, жыла
Уся раскоша хваль Мананаана,
І — мроілася, — нібы цень ад шкла,
Сінеў партрэт паэта Асіана;

Струменіліся ў струнныя шаўкі
Валынкі плач і водар канюшыны,
А ў паб натоўпам беглі маракі...
Па дзве, па тры — ішлі ў царкву жанчыны...

Зялёную гадзіну ў доме тым
Спаборнічалі юныя арфісты, —
Пасля выходзілі на ганак па адным
І гаманілі з лонданскім прысвістам.

Ірландыі маленькія сыны...
Ніхто не навучыў іх мове гэльскай,
Таму ім па-ангельску сняцца сны
І па-ангельску лаяць ім ангельцаў.

І ў пабе (па-ангельску ж!) маракі
Спявалі: «Мэры муж кахаць не можа!
І раз ужо нягеглы ён такі,
То беднай Мэры кожны з нас паможа!..»

(Мне сумна...) Ці ірландскай мы крыві,
Ці людзі на балоце там якія,
Аднак жа мы аднолькава глухія
Да гукаў родных... (Божа, барані...)

Каб гукі родныя не зніклі назусім, —
Павевы-шолахі і скрыпы-рыпы, —

Напэўна ж, паклапоцяцца аб тым
Нямыя дрэвы і нямыя рыбы.

4

Сініца-адамант, я ў парку Стывенс-Грын...
І — «што далей?» — любімае пытанне
Бунтуе кроў, нібы адрэналін,
І верыць прымушае ў пакаранне.

За праўду будзе кара?! За ялей?!
За Беларусь, што ў полечцы-трасусе...
Любімае пытанне «што далей?» —
Галоўнае пытанне Беларусі...

Сініца любая, магчыма, ты адна
Трывалая да старасці надзея
На клопат боскі, на глыток віна,
На стрэл дуэльны ў пошлага сугнея.

Я ведаю, ты запяеш савой
Над санкамі, прыбранымі ў рагожы,
Калі прастрэленай навылет галавой
Ён тыя санкі раптам упрыгожыць...

Каму — даліна, а каму — турма,
Галеча без адхлання-шкадавання,
Бяссонная жабрацкая сурма
Гучацьме ад світання да світання.

Пад гэтае сігнальнае выццё,
Каб выжыць, свае мерачы этапы,
І мне маё ласкавае жыццё
Падорыць іклы воўчыя і лапы.

Тады, сябе не помнячы... Тады
З дубоў авечых у адно імгненне
Здзяру я залатыя жалуды
І залатое выгрызу карэнне...

І быццам у чаканні тых часін,
Якія будуць бедныя на вершы,
Адпачываў я ў парку Стывенс-Грын,
Гадзіны дзве на лаўцы адсядзеўшы.

5

Сініца-адамант, я сніў славянскі снег,
Яго піла ірландская адліга,
І ў той адлізе гінула навек
Бясконцая славянская інтрыга.

Расія клікала, — я не хацеў туды,
Прыеліся імперскія прысмакі;
Не правакуючы нервовае нуды,
Маўчала Польшча — малайцы, палякі.

Расія-азія, расцісні кулакі,
Вучыся мудрасці нямога панавання,
Каб мог я вандраваць у два бакі,
У два бакі цудоўнага маўчання;

Каб мог адчуць і ў міг апошні свой,
Што светам не пакінуты і Воляй;
Каб мог спакоем, як вадой святой,
Сябе крапіць — і чым далей, тым болей;

Хаваючы крапідла ў рукаве,
Каб мог па Менску навіну развесіць:

«Шчаслівы той паэт, які жыве
На Францысканскай, 3, кватэра 10.

Прыходзьце, і за сходную цану,
А то й за так, як чалавек зычлівы,
Да разумення вас я павярну,
Як адчуваць сябе штодня шчаслівым...»

«Штодня шчаслівым...» — гэта ўжо найперш
Патрэбна кожнаму, як сон трывалы,
Хоць шчасце — шчасце нашае, як верш,
Недашаптаны бронзаю Купалы.

# Твая Марыя

1

Твая Марыя, Юрка Лістапад,
Прачнулася на досвітку халодным.
Над Свіслаччу стагнаў і плакаў сад,
Нібы жабрак, абдзёрты і галодны.

І ўсё было галоднае наўкол —
Гліняная скарбонка і паліцы,
І той, што сніўся толькі што, анёл,
І неба беларускае сталіцы.

Спалоху ненажэрны матылёк,
Крыві наеўшыся ў жаночым сэрцы,
Хаваўся ў пахудзелы кашалёк,
Каб адпачыць, як у сваім кубельцы.

А ў думках — боль: як жыць далей, калі
Усё так будзе доўжыцца бясконца...
У кашальку адзін ці два рублі,
Адзін ці два, — і глухата ў скарбонцы.

З паўторбы крупаў, бульбы з паўмяшка,
І ўжо алейніца амаль пустая;
Як сонца ўзыдзе, слоік малака
Малочнік Хоня пад акном паставіць.

І хоць яму не плачана даўно,
Усё адно са слоікам літровым
Штораніцы прыходзіць пад акно
І ў шыбу стукае кійком лазовым.

«Маўляў, прынёс я...» — і далей ідзе
Да Свіслачы, па вуліцы Гандлёвай,
І цень яго люструецца ў вадзе,
Заўсёды звыклай і заўсёды новай.

2

Твая Марыя, Юрка Лістапад,
Перад люстэркам, як перад іконай...
Вачэй стамлёных ластаўчын пагляд
Напоўнены гаркотаю бяздоннай.

Дзень пачынаецца, як дзень любы,
Да бедаў чалавечых раўнадушны,
Як дол, сляпы, і на святло скупы —
Няма святла, дык, пэўна ж, дзень зладзюжны.

Турмою пахне дзень, і ўсё наўкол
Турмою пахне — столь і аканіцы,
І той, што сніўся толькі што, анёл,
І неба беларускае сталіцы.

На цэглу дрот кладзецца і цвіце,
Нібы шыпшына, за якою нары,
Само жыццё са стыгмай на шчацэ
Ляжыць на іх, — чакае большай кары.

Тут век жыві, а вынік усё той;
Тут волю вольную за хвост не зловіш;
Турма тут не застоіцца пустой!
Што ні рабі — адбудзецца ўсё тое ж!

Хоць у сваім схавайся кулаку,
Аднак і ён не ўсцеражэ ад кратаў...

Дачка прачнулася ў сваім кутку:
«...мне сніўся сон... Мне сніўся, мама, тата...

Сядзіць у нейкім доме ён адзін,
І сумна там сядзець яму й няміла...» —
Сказала так і слёзкі бальзамін
На коўдру даматканую ўраніла.

«Не плач, не плач... Наш тата ў доме тым,
Дзе сум у іншых душах патанае,
Бо гэты дом бязлюдным і пустым
Ніколі, мая дзетка, не бывае».

3

Твая Марыя, Юрка Лістапад,
Каптанік апрануўшы старасвецкі,
Пайшла на шум, бо зашумеў па-над
Халоднай Свіслаччу базар Траецкі.

Аднак Марыі на базар ісці —
Усё адно, што лахманамі трэсці;
Усё адно, што ў свіслацкім трысці
Мыць золата на камароўскім рэшаце.

А што было рабіць?! Таму ішла,
У гэтым шуме прагнучы схавацца;
Ішла і думку горкую піла:
Раней, чым старасць, надышло жабрацтва...

І ўсё было жабрацкае наўкол:
Няміга і муры Другой бальніцы,
І той, што прылятаў у сне, анёл,
І неба беларускае сталіцы...

Ці думалася хоць на міг аб тым,
Што лёс, не ўзняўшыся, апусціць крылы;
Што роднае не стане залатым;
Што родны кут — ён родны, ды не мілы?..

А хоць і думалася — што з таго!
Усе наперад вынікі благія,
І лёсам — з меха цяжкага яго —
Нам вытрасена толькі торба з кіем...

Марыя йшла ў спалох, у калатню,
Сціскаючы свой кашалёк лядачы,
Каб цукар, сала, трохі тытуню
Купіць дзеля турэмнай перадачы.

Малілася: «О Божа, надзялі
Удачай пакупніцкаю і сілай...
На гэтыя адзін ці два рублі,
Каб я ж усё, што трэба мне, купіла...»

Пыталася ў нябеснага суддзі:
«І што ж гэта за вырак невясёлы —
Раз беларус, то з торбаю хадзі;
Раз беларус, то заставайся голы;

Няўжо Табой задумана для тых,
Людзьмі... якія... захацелі... звацца,
Падпора вечная — канвойны штых,
І ласка вечная — краса жабрацтва?!»

4

Твая Марыя, Юрка Лістапад,
Нясе з базару жменю перадачы;

Яе падзеліць варта — з катам кат, —
А крошкі перадасць табе наглядчык.

Ён дзядзька просты, з добраю душой,
Від, бы ў ката, а нораў, бы ў сабакі,
Паспагадае і бядзе чужой,
І што да службы — не чакае дзякі.

Ён любіць свой турэмны калідор
На восемдзесят камер (тры на дзевяць!),
У кожнай — вязняў, як у небе зор,
Святло якіх з Галгофай славу дзеліць.

Ён ведае на памяць «Ойча наш»
І носіць Біблію ў заплечным меху,
І часам любіць, як вясковы звадыяш,
Прымусіць вязняў, каб пабіліся для смеху.

З анучкай ходзіць, выцірае пыл
І па кутках здымае павуцінне,
І фасфарычнае святло магіл
Яму ўжо сніцца й раніцай не гіне.

Ды што казаць — ён проста дзядзька свой,
І нават ведае, што ёсць паэт Купала,
І знае, што магільнаю травой
Любая крыўда гоіцца трывала.

Дажыў да старасці... А ты не дажывеш,
Старой не ўбачыш любую Марыю;
Прынесеныя крошкі дажуеш,
Адчуўшы, як метал халодзіць шыю.

Слязою Божай упадзеш на дол,
Паспеўшы згледзець позіркам замглёным,

Што ўсё было старэчае наўкол:
Паветра, хвоі і пясок чырвоны.

5

Твая Марыя, Юрка Лістапад,
Адстояўшы ў чарзе кіламетровай,
У вечаровым прыцемку назад
Вяртаецца да вуліцы Гандлёвай.

А ногі ныюць... Праўды ў іх няма?!
Не, праўда ёсць — як не ў нагах, то ў сэрцы.
Марыя адстаяла недарма,
Бо што прынесла — прынялі ў акенцы...

Менск дыхае цырульнікам старым
І голіць змрок трамвайнаю дугою.
На Свіслач апускаецца кілім,
Фастрыгаваны флёксай і тугою.

І ўсё стаіць шыпшыннае наўкол —
Гатэль, кавярні, крамы і бажніца...
Сагнуты ў крук на козлах балагол
На крыж каня раптоўна стаў хрысціцца.

Шкло свеціцца ліхтарнаю рудой
І патанае ў рэстаранным скерца.
Паэзія сталіцы маладой —
Паэзіяй пакуль яшчэ здаецца;

Пакуль яшчэ смяецца ямб, які
То мальваю прывабіць, то мімозай, —
Але ўжо блізка чуюцца гудкі,
Напоеных юдоллю паравозаў.

Краіна-Беларусь — бясконцы скон...
Ты ёсць, цябе няма, ты вечна будзеш...
На белых ружах — кроў, у душах сон,
І ўсё ж ты душы гэтыя разбудзіш.

О Маці-Беларусь (Купалаў троп,
Знясілены пакорай і разладам!),
Пацалаваны твой іконны лоб
Марыяю і Юркам Лістападам.

## Паўночны завулак

1

Начных аблокаў стыль барочны
Па-над чыгункаю ўзышоў
І на завулак лёг Паўночны
Выявай прывідных крыжоў.

А з недалёкага вакзала,
Не заўважаючы крыжы,
Пяшчотна музыка гучала —
Люстэрка роднае душы.

Завулак, нібы цень магілы!..
І думаў я ў начным лісці,
Што са студэнткаю Энвілы
Магчыма мне па ім прайсці...

Дамы стаялі, як здарэнні
З гадоў мінулых, і паўз іх
Плыў у зялёным атачэнні
Кахання соннага ўскалых.

І лісце соннае хацела,
Расой налітае да тла,
Каб зніклі і душа, і цела —
Каб толькі музыка жыла!

2

Акрыўшыся арэхам грэцкім,
Стаяў дамок, і ў тым дамку
Каханцы з вуліцы Нямецкай
Фельд'егер цалаваў руку.

Паперу важную ў Варшаву
Ён вёз і, пэўна ж, не давёз.
Шампанскае на стол і лаву
Лілося і блішчэла скрозь.

Папера важная ляжала
Уся залітая віном, —
І тая ж музыка гучала,
Спавітая начным ільном...

Не гавары пра пакаранне,
Пра гнеў начальства не кажы —
Здабыў фельд'егер на світанні
Утулле целу і душы!

Як лісце гэтае, звінела
Струна ў загульнай галаве:
«Хай знікнуць і душа, і цела —
Хай толькі музыка жыве!»

3

Згадалася невыпадкова
Прыгода гэтая. У ёй —
Выратавальная выснова
І сэнс паэзіі маёй.

На страх забыўшы і дзяржаву,
Цудоўна часам у жыцці
Паперу важную ў Варшаву
Вязці, але... не давязці.

Цудоўна ў радасці раптоўнай
Камечыць страсці палатно
І на шэдэўр душы чыноўнай
Ліць, не шкадуючы, віно.

І ў радасці кароткай гэтай
Вядомы разгадаць сакрэт:
На гандляроў і на паэтаў
Падзелены пароўну свет...

Магчыма, гандляры айчынай
Зусім не ведаюць аб тым,
Што шчасце — гэта быць з жанчынай,
З яе настроем залатым.

4

Шлях Млечны (ці паўней — Малочны)
Пад гул чыгуначных грамоў
Дукаты кідаў на Паўночны,
На дахі ўсіх яго дамоў.

І ў гэтай яве немагчымай
Збіраць іх не было каму,
Бо спалі гандляры айчынай
І снілі менскую турму.

А я не спаў, мяне вадзіла
Ўсю ноч па золаце пустым
Твая выбранніца, Энвіла,
І вочы еў шчаслівы дым.

У неспакоі гукаў-шумаў
І над чыгуначнай іржой
Аб смерці ў гэту ноч не думаў —
Ні аб сваёй, ні аб чужой.

І толькі чуў, як летуцела
Наўкол жаночая імгла,
Каб зніклі і душа, і цела,
Каб толькі музыка жыла.

## 5

Ды не яны, а цемра знікла,
І з чатырнаццаці дамоў
Завулка бліснула апрыкла
Электрыкі сухая кроў.

Пара набегла развітання
І адчування: пры святле
Слабее мітусня кахання,
Набытая ў начной імгле.

І ўсё слабее, траціць сілу,
І так шкада, хоць плач наўмор, —
Твая выбранніца, Энвіла,
Згубіла свой таемны флёр...

Са шкадаваннем відавочным
Пад гул чыгуначнай іржы
Завулак страціў стыль барочны,
Уяўныя свае крыжы, —

І ўслед... мяне таксама страціў,
І я, застаўшыся ні з чым,
Смяяўся з прывіднага шчасця,
А болей — з ранішніх жанчын.

# ПОЛЬ ВЕРЛЕН
## (1844–1896)

Ад яго самога жахаліся, а ягонай творчасці зайздросцілі.

Мог жыць заможна, аднак выбраў галечу.

Яго жыццё пачыналася, як і любое жыццё, — з малака, але ў тое малако трапіла кропля абсенту.

Шукаў супакаенне ў жанчынах, і не толькі ў іх, аднак жа знаходзіў супакаенне ў алкаголі і паэзіі.

Ці не кожны парыжанін, нават і той, які ніколі не чытаў вершаў, ведаў яго імя і мог паказаць гатэль, у якім паэт памёр, а таксама кавярню, дзе яго абралі каралём паэтаў...

Вандроўнік, уцякач, бадзяга, вязень, а найперш — гора для родных.

Заўсёды ўцякаў — ад сям'і, ад Францыі, нават ад паэзіі, таму і быў каралём без каралеўства.

Лёс адчуў сябе пераможаным, калі зразумеў, што для Верлена: вышэй за сям'ю — Францыя, вышэй за Францыю — алкаголь, вышэй за алкаголь — паэзія, вышэй за паэзію — музыка...

## Мастацтва паэзіі

*Шарлю Марысу*

Спачатку Музыка... І ў ёй
Застанься і забудзь пра Слова.
Паветра, хваля — вось аснова
Усёй паэзіі тваёй.

Гаворка — стыгма на шчацэ!
Не Слова здабывае складнасць,
Спявай, і з'явіцца дакладнасць
З вакхічным кубкам у руцэ, —

І позірк юны праз вуаль,
І дзень арфічны ў струнах поўдня,
І, восенню сп'янеўшы, поўня
На зоры кіне жоўты шаль!

Пусці адценне на парог!
Не колер, а яно ўладарыць,
Вядзе да шлюбу сны і мары,
І з флейтай паляўнічы рог!

Цынічны смех не для цябе,
А для якой часночнай кухні —
З ім вочы, плачучы, апухлі
І аддалі блакіт журбе.

Напышлівасць пятлёй здушы,
Няхай хрыпіць пустое горла,
Хай рыфму неспакой агорне,
Каб сон пайшоў з тваёй душы.

Хто рыфму даў на шкоду нам?
Які вар'ят, які прыблуда
Прывабіў нас дурной аблудай
І дуплы выглыбіў званам?!

Дык Музыкі — на ўвесь твой лёс!
Тады ж душа ў лірычным цудзе
Нябёсы новыя здабудзе,
Каханне іншае ўсур'ёз.

Хай верш у добрых авантурах
І ў ранку ветраным жыве,
І ў мяце з кменам, і ў траве...
А рэшта ўсё — літаратура.

*1874*

## Знямога

*Жоржу Куртэліну*

Я — сын імперыі перыяду скanання,
Як і пры варварах, так і без іх
Складаю акравершы з дзён сваіх,
Стыль залаты пазычыўшы ў змяркання.

Душа тужлівая не ведае адхлання,
Зноў бачыць кроў на ўсіх шляхах цяжкіх.
Павольна кветкамі навін такіх
Ці акравершамі ўпрыгожваць існаванне?

Не марыць, не жадаць пра смерць, пра цішыню!
Стаптана ўсё! Бацiл, твой смех падманны!
Дапіта, з'едзена! І словы ўсе сказаны!

Адзіны верш благі, што кіну да агню,
Адзіны раб дурны, што мне жадае гора,
Адзіны сум цяжкі, які сціскае горла.

*1884*

* * *

У сне чарнее
Жыццё-скананне:
Засні, надзея,
Засні, жаданне!

Не бачу болей
І памяць трачу,
Ні зла, ні волі...
О, сум жабрачы!

Я стаў калыскай.
Мяне калыша
Рукой няблізкай
Ціша, ціша!

*1875*

# Фаўн

Гліняны фаўн стары
Смяецца, пэўна, з нас,
Вяшчуючы дары
Благія ў светлы час.

Удача ў нас адна,
Мы — сумныя з табой,
Ад нас бяжыць яна
На тамбурынаў бой.

*1868*

## Марскі краявід

Звонкі акіян
У дрыжанні хваль
Топіць поўні жаль
І вачэй туман.

Навальнічны глыж
Коле напалам
Неба вечны храм,
Як руды гладыш.

Хваляў злы ўскалых,
Сутаргавы шал
Паўз вышыні скал —
Не адной, а ўсіх.

На высокі суд
Да саміх нябёс
Ураган узнёс
Пекла страшны цуд!

*1865*

* * *

Il pleut doucement sur la ville*.

*Арцюр Рэмбо*

Слёзы ў сэрцы маім,
А над местам зноў дождж.
Невядома па кім
Сум у сэрцы маім.

Струм ласкавы дажджу
Па зямлі, па дамах!
Сэрцу дорыць імжу
Спеў бясконцы дажджу.

Слёзы проста ад слёз,
Сэрца плача само —
Ні бяды, ні пагроз,
Смутак — проста ад слёз.

Моцны боль, боль адзін
Без нянавісці, зла,
Без каханых жанчын —
Боль у сэрцы адзін!

*1874*

* Над местам далікатны дождж (*франц.*).

# КАНСТАНТЫ ІЛЬДЭФАНС ГАЛЧЫНСКІ
## (1905–1953)

Любіў імправізацыі, пакланяўся мастацтву раптоўнасці.

Імправізаваў у жыцці і ў творчасці.

Аднак у жыцці гэтым мастацтвам, бадай, займаўся найбольш...

Ажаніўся з непаўналетняй Наталляй.

Бацькі Наталлі згоду на шлюб не далі.

Але шлюб адбыўся.

І не ў касцёле.

Паляк Канстанты Галчынскі прывёў сваю каханую (грузінку па бацьку і расіянку па маці) у праваслаўную царкву...

Любіў у кабарэ іграць на скрыпцы; быў далікатны, нават далёкія ад паэзіі людзі пазнавалі ў ім паэта — *артыста*...

Шпацыруючы па вечаровай Варшаве, уголас размаўляў з Блокам...

Фліртуючы, ужо адным сваім голасам мог ператварыць жанчыну ў шчаслівую дзяўчынку...

Амаль усе свае лірычныя вершы прысвячаў жонцы, аднак жа не быў аднолюбам.

Дачка Кіра ўспамінала: «Ці былі іншыя жанчыны? Былі. З'яўленне ў чэрвені 1990 года блакітнавокага мужчыны, які прызнаўся: «Я — Костак Галчынскі, твой брат», — яскравы доказ, што іншыя жанчыны існавалі. Аднак Наталля была адзіная, да якой вяртаўся...»

Атрымаў усебаковую філалагічную адукацыю і прачытаў неймаверную колькасць кніжак на розных мовах...

Паэт з ласкі боскай, аднак жа першую кніжку выпусціў празаічную — аповесць «Парфірыён Вослік, або Клуб блюзнерцаў»...

Прыдумаў сабе другое імя — Ільдэфанс; прыдумаў сярэдневяковага англійскага паэта Морыса Гордана Чыйтса, у існаванне якога паверыла прафесура Варшаўскага ўніверсітэта; прыдумаў краіну Фарляндыю...

У Берліне па-французску напісаў раман «Святло поўні» і рукапіс рамана згубіў.

Гэтак жа легкадумна, як да рукапісаў (з напісанага згублены быў не толькі раман), ставіўся і да сваёй пасады рэферэнта па культуры ў Польскім Генеральным Консульстве ў Берліне...

Улюбёнец лёсу і адначасова ахвяра...

Зведаў пяшчоту альковаў і лагерныя нары...

Быў смелы, але знарок сваёй смеласцю не выхваляўся.

У 1947 годзе ў камуністычна-каталіцкай Польшчы публічна прызнаўся, што ён ні каталік, ні марксіст...

Умеў цаніць творчую адзіноту...

Ні над кім з паэтаў-сучаснікаў не ўзносіўся, хаця адрозніваўся ад усіх...

Адсутнасць у характары фанабэрыі і самаўлюбёнасці не дае падставы назваць яго польскім Оскарам Уайльдам...

У паэзіі ХХ стагоддзя ён — вандроўны дэндзі...

Ад суму бараніўся летуценнямі, ад беднасці — іроніяй, ад лішку грошай — замежнымі вандроўкамі, ад жаху свайго часу — каханнем, ад самога сябе — паэзіяй...

Зямное прыцяжэнне, адкрытае навукай, і нябеснае, адкрытае паэзіяй, варагавалі ў ягонай душы — калі нябеснае перамагала, тады ён уздымаўся ў надзем'е і адтуль па-новаму глядзеў на вядомае; напрыклад, на тую ж гісторыю пра Антэя...

Старажытны міф сведчыў: адарваўшы Антэя ад зямлі, якая жывіла гэтага волата, Геракл перамог яго.

Аднак жа Галчынскі не верыў, што Антэя можна было адарваць ад зямлі, сіла Геракла не пераконвала.

«Усё значна прыгажэй, — казаў паэт, — Антэя паклікала неба, і таму ён сам адштурхнуўся ад зямлі, і адбылося гэта якраз у той момант, калі з ім усчаў бойку Геракл...»

# Заручыны Джона Кітса
*Камедыя*

Даўняй Англіі дуб — залаты пад маланкамі грому.
Снег бялюткі наўкол: цішыня вечаровага дому.
Любасць — дуб залаты, навальніцы жывуць
ва ўспаміне.
Джон падкідвае дроў, каб ярчэй палымнела
ў каміне.
Як нябёсы, пакой прыадчыніцца, з'явіцца Фані,
сядзе побач, і Джон скрывіць губы ў тупым
блазнаванні.
Джон, ты дурнем не будзь,
будзь паважна-вясёлым на свяце
і на Фані не злуй, сёння ж з ёю заручышся,
браце.
Будзе белы абрус, і, як свечкі, запаляцца віны,
дурань Джон, не сядзі — пацалункаў чакае
дзяўчына.
Звонку ціхая ўся, а душа яе ў полымі тоне,
і вуголіны зор ахалоджвае веер далоняў.
Ах, камін-весялун, ты ўтвараеш сцэнічныя хвілі,
Можа, Ўільям стары грае нейкія там вадэвілі.
До ўжо, дзеці, гуляць, падыходзьце бліжэй
да застолля,
дзе аж гнуцца сталы, а музыкаў здушыла сваволя,
што ні цётка (анёл!) — увіваецца па-над тартамі,
але што нам тарты, саладзей дакрананне губамі.
А калі сціхне ўсё і раз'едзецца кожны дахаты —
вусны Джона і Фані раздурэюцца, як звераняты;
пацалункавы сад яны ўтвораць, пачуццяў завею,
лепш, чым гётэўскі сад, праз які Герман вёў
Даратэю.

Разам Фані і Джон — гэта Неба ўдваіх з Акіянам;
Фані — дама, а Джон — верны рыцар са шпагай
адданай.
Па камедыі ўжо. Не сумуйце, панове акцёры,
на паклон ідучы, заставайцеся ў добрым гуморы.
Праз імгненне пачуеце воплескаў пляскат
бясконцы.
Днее... лёд на акне... голуб за шыбай...
салодкае сонца.

*1928*

## Грудзі каханкі:

Мы — для паэтаў раскоша,
неапісальная словам,
нібы дзве зоркі, ўзыходзім
пад сукняй парой вечаровай.

*1929*

## Просьба пра шчаслівыя астравы

Завязі на шчаслівыя астравы,
ветрам лагодным валасы, нібы кветкі, развві,
зацалуй,
закалыхай, прыспі і музычнаю мрояй мяне
атумань,
і ў сне на астравах шчаслівых вызвалі ад сну.

Пакажы мне вялізныя хвалі і ціхія хвалі,
дазволь мне пачуць на галінах зялёных размову
зор,
шмат матылёў пакажы, матылёвыя сэрцы
прылашчы,
а думкі спакойныя па-над хвалямі каханнем схілі.

*1930*

## Фарляндыя*

Пагаварыць пра нашае каханне
на мосце мы хацелі на змярканні,
пад клёнам, ля кіёска тытунёвага;

ды, я прадбачваў, выпаў знак нячысты —
мост узарвалі гэты анархісты,
і дзе ж цяпер чакаць спаткання новага?

Скрозь — душна, цесна, але ёсць мясціна
Фарляндыя, цудоўная краіна.
Спявае неба там, а пальмы з райскім ценем.

Ты плачаш, засмучаешся дарма,
што моста вечаровага няма —
мы раніцу ў Фарляндыі сустрэнем.

*

Пальмы хістаюцца,
пальмы хістаюцца —
так-так-так.

Тут усё засталося.
Не вярнуся сюды —
не-не-не.

Птушкі над пальмамі,
а ў пальмах саладосць
мі-ма-мі.

---

* Far land — далёкая краіна (*англ.*).

Сны — ежа нашая,
а ў снах усё тыя ж
пальмы.

Пальмы хістаюцца,
пальмы хістаюцца —
занадта.

Краіна, якую адкрыем мы,
таноткая, салодкая —
Фарляндыя.

*1934*

## Пра нашу гаспадарку
*Фрашка**

О зялёны Канстанты і, як срэбра, Наталля!
На вячэру вам — ландышы ў тонкім фіяле;
каля іх дамавік з алебардай, як рыцар,
бараду сваю сівую спляміў гарчыцай,
пэўна ж, сыты... А вы нагуляліся ў фанты —
о Наталля зялёная і, як срэбра, Канстанты!

*1934*

* Фрашка — жартоўны вершык.

## Каханая

Бракуе грошай на машыну,
каханая.
Спяшаюцца ў машынах дурні,
а пешшу ўсё ж хадзіць культурней,
каханая.

Бракуе грошай і на Лондан,
каханая.
Што?! Лондан — радасць? Лондан — гора:
ў «Paris-Soir» чытаў я ўчора,
як атруціў маркіз спрасонку
сабачай макаронай жонку...
На чорта здаўся такі нам Лондан,
каханая.

Крамлёўская ікра, асётры,
вядома, не для нас таксама.
Навошта Крэмль — ёсць твае бёдры!
І ноч, і ўтулле сіняй коўдры,
віно, і пацалункаў многа,
і грошы на рахунку ў Бога.
Плюй на машыну, Крэмль і Лондан,
каханая.

*1934*

## Цяжкі вечар

Цемры смарагдавай ходзіць спалох,
ландышам пахне тваё паднябенне,
з ложы нябеснай глядзіць на нас Бог...
Цалуй жа, Наталля, мяне да знямення.

Месяц, жывы бутафорнай імглой,
нібы акцёр, нам ласкава міргае.
Хочаш, на акарыне зайграю
пра боль наш вялікі ў Вільні малой?

*1935*

## Крычыш у сне

Спіш і крычыш. Лямпа ў дыме.
Наталля, Ната, Натала!!!
Чаму на Каўказ не ўцякла
разам з бацькам, з братамі сваімі?

Бачыш, дні тут праходзяць марудна,
з аспірынам і слотай прастуднай,
хмары пахнуць трывогай, радзімай.

Там бы мела палац маўрытанскі,
вінаграднік і коней іранскіх —
зразумела, пры ўмове магчымай.

*1936*

## Шыпшына

Ідзі за водарам шыпшыны —
і ён навее асалоду,
нібы чароўнай флейты гук.
Ідзі праз лес, ідзі праз луг
і ўбачыш родную гасподу.

Стрывай усё для той шыпшыны
і сны блакітам ёй напоўні.
Яшчэ крыху — і ўсё бліжэй
тры вольхі. Бачыш. А вышэй —
змярканне, зоры, слёзы поўні.

Пяе дарога пра шыпшыну,
смяецца ў золаце туманным.
Шыпшына! Асвятляеш змрок.
Шыпшына! Чуеш ты мой крок?
Іду — твой вецер закаханы.

*1942,*
*лагер ваеннапалонных Альтэнграбаў*

* * *

Ветахам быць у тваіх слядах,
ветрам у стужцы, у кварце тваёй малаком,
пахітосай у вуснах, сцежкай паміж васількоў,
альтанкай тваёю і кніжкай, якую чытаеш.

Прашыцца, як нітка, аблашчыць прасторай,
быць порамі года для каштоўных тваіх камянёў,
і агнём у каміне, і дахам, які ўратуе
ад дажджу.

*1946*

## Гадзіннік з ланцужком

Пятро Калінскі-Дзівановіч
знайшоў гадзіннік з ланцужком,
ад шчасця дуба даць гатовы,
да жонкі рушыў ён трушком.
На ланцужку, нібы катрынка,
пяе каралавая свінка!

Вось і жытло на Кенпе Саскай*:
кілімаў і статуек шмат.
Прыбраная ў халат атласны,
чакае жонка акурат.
«Ты чым узрушаны?» — спытала.
«Знайшоў гадзіннік я з каралам!»

І выцягнуў гадзіннік жвава
з гарачым дрыгам уваччу...
«А хочаш, — сказануў ласкава, —
яго я зараз накручу?
Тут, бачыш, ключык адмысловы...»
Пятро ажно глытае словы.

Круціў, нібыта слаўся лістам,
і нечакана ў цішыні
гадзіннік грымнуў урачыста:
«Боже, царя храни!..»
Пятро здзівіўся ў неспадзеўцы,
сляза аж бліснула на вейцы!

Тым часам бой свой старадаўні
гадзіннік якасна ўзмацняў
і з ноты «Сильный и державный...»

---

* Мясціна ў Варшаве.

на ўсе кватэры загучаў...
Прыйшла памешчыца старая:
«Мой Божа, музыка якая!»

Прыйшоў Вундэрліх — жлукта шчыры,
і Дзідзё — вечны абібок,
і бабкі нейкія чатыры
з вязаннем — на клубку клубок...
Уся сышлася камяніца,
каб на гадзіннік падзівіцца.

І слёзы засцілалі вочы,
шчымелі пяты і нутро,
і плакалі ажно да ночы
Вундэрліх, Дзідзё і Пятро,
бамбізы, дзеці і бабулі:
«Часы якія прамінулі!..»

*1936*

## Вечныя бежанцы

Вечныя бежанцы. Скрозь у дарозе.
Інтэлігенты.
Гінем пад сонцам, найбольш на марозе,
о Пане свенты!

Кожны ідзе са сваім грамафонам
з краю да краю.
«Дзе ваша айчына? Дзе ваша радзіма?» —
скрозь нас пытаюць.

А мы не знаем; слязу глытаем
пад штучнай пальмай;
эпісталярныя вершы складаем
на лаўцы вакзальнай.

*1936*

## Вандроўка ў шчаслівую Аравію

Пунсовыя стужкі пугі вецер цалуе залётны.
Зорак у небе столькі, колькі ў Афрыцы птушак.
Цягнуцца ледзьве коні, колы па золку тужаць.
Вознік на козлах п'яны і вельмі-вельмі самотны.

Як музыка, гэта карэта — вандроўны куфар
музычны!
Ноч навакол — гэта шчасце, якога набегла
задужа!
Як толькі ж уздымецца месяц вялікай
празрыстай сцюжай,
то кожны святляк замілуе мігценнем сваім
фасфарычным.

Плечы на мяккіх падушках, ладан падушак
у горле.
Ехаць няблага ж уночы, што застанецца адзінай!
Спявае сапфір і дарога, пяе за гадзінай гадзіна...
Яны ж анічога не чуюць, не знаюць,
таму што памёрлі.

*1929–1937*

## Паэзія

Паэзія мая — начны анёл,
спакой маладзіковы,
сунічны дол у сэрцы і наўкол,
і цені, як замовы.

Няма жанчын пры мне, няма дзяўчат,
і ўжо заснулі словы,
і патанае старасвецкі сад
у спеве цвыркуновым.

І гэта ў ёй, паэзіі маёй,
мой кот стары, лянівы
спіць на акне пад фортачкай крывой
і сніць, вядома, дзівы.

*1934–1937*

# Струны кранаць

Струны кранаць — маладзік узыходзіць!
Чуйная ноч і чароўныя шолахі скрозь...
Кветкамі коней аздобіць, мора гайдаць,
                                                            як жанчыну,
ранак вітаць і дзяцей, што ў школу ідуць.

Струны кранаць, калі сонца ўзыходзіць,
вусны каханкі любіць больш за сонца і месяц,
свет, нібы астру, да сэрца прыціснуць, а сэрца
зоркай зрабіць і прасіць: «Варажы на спакой!»

*1935–1937*

## **Караль Шыманоўскі**
## *(паэтычная версія размовы на Кракаўскім Рынку непадалёк дома «Пад Мурынамі» ўночы з 1 па 2 красавіка 1947)*

*Ганне Івашкевічавай*

Так. Гэта тут;
ля гэтых Мурынаў з Конга;
пад зоркай, што смешнай пчалою гудзе.
Вецер-заіка не можа спытацца звонка:
«Му-
        му-
              му-
                    музыка дзе?..»
А ў музыцы флажалеты,
нібыта персідскае тканне!
Як вам гучанне, пані?
Мне з вамі добра тута —
толькі б слухаць... (журбою сагрэты),
доўга слухаць... (сагрэты расстаннем)
пра тое,
што вусны запахнуць
райскім грэйпфрутам.

*1947–1948*

## Скрыпач Антоні

Ты расказала пра скрыпача Антоні, —
Свайго прадзеда,
Які найбольш любіў іграць пра сажу і муку.
Аздобіўшы тваё апавяданне рыфмамі,
Я ўбачыў у ім тое, што мог убачыць:
Сажа — благое, мука — добрае,
А сам Антоні —
Сымон-музыка ў глыбокай старасці...

Ігрок душы — Антоні
За грошы не іграў;
Як знічку, у далоні
Жывую скрыпку браў.

У полі ці ў гародзе —
Заўсёды пры смыку
І песню ён выводзіў
Пра сажу і муку...

Таўкач муку пакажа,
Дастукае да дна.
І ўсім пакажа сажа,
Што чорная яна.

З мукі пірог спячэцца,
А з сажы — толькі дым,
І сажа застанецца
У коміне пустым...

Струна струне спявала.
Смык выцалоўваў іх.
Антоні граў удала
І цешыў так усіх.

Лагодным лістам слаўся,
Быў лёгкі на руку,
Іграў і не стамляўся
Пра сажу і муку.

Але чаму пра сажу?
І пра муку чаму?
За скрыпача адкажам:
Так гралася яму;

Хацелася ў настроі
Старому дзіваку
Іграць адно і тое —
Пра сажу і муку.

І з песняй гэтай хвацкай,
Як голуб у турму,
Ягонае юнацтва
З’яўлялася яму.

Не вельмі каб цяжкое,
Хоць і было цяжкім, —
То белае такое,
То чорнае зусім.

Куды вяла дарога —
Туды не давяла.
І з усяго такога
Адна была хвала.

Аб той пары юначай
І нежывы кажы
Як не смыкам, то плачам —
Па струнах, па душы!..

Таўкач муку пакажа,
Дастукае да дна,
І ўсім пакажа сажа,
Што чорная яна.

З мукі пірог спячэцца,
А з сажы — толькі дым,
І сажа застанецца
У коміне пустым...

«Можа, Ганна скрыпку ўчуе,
Можа, звонкая струна
Яе душу пацалуе...»

# Краўчыха Антоніха

Ты расказала і пра Антоніху —
Сваю прабабку,
Што жыла ў заходнебеларускім мястэчку
І памерла яшчэ пры Масьціцкім.
Яна так і не зведала кахання —
Яе ж Антоні ўсё трызніў аб нейкай там Ганне!
Калі праўду сказаць,
То Антоніха пра каханне й не думала:
Шыючы людзям, марыла пра багацце,
Аднак мара не спраўдзілася...

Антоніха, быццам жабрачка,
З душою па-звыкламу гожай.
Ніхто не казаў, што лайдачка,
Аднак жа гібела без грошай.

Антоні ж, скрыпач безграшовы,
Пянёндзы раскідваў па лёсе
І толькі што ў дзень кірмашовы
Ён злота якога прыносіў...

Без крыку яна і без енку
Марнела ў чаканні багацця...
Як новую справіць сукенку,
Не мела, як кажуць, паняцця.

Затое глядзела на зоры,
Затое на кветкі глядзела;
Ніколі не плакала ў горы
І ў шчасці, бо шчасця не мела.

Усіх сустракала вясёла;
Адзінага славіла Бога;

Жыла між царквой і касцёлам,
Мячэццю і сінагогай.

Бывала, ледзь бачнай слязінкай
Душу асвятляла і слова,
Ды музыкай швейнаю «зінгер»
Яе суцяшаў адмыслова.

Калі ж цеплыні не ставала,
Тады, імкнучыся да ладу,
То дзецьмі сябе разважала,
То песенькай хатняга складу:

«Сукенка Ганулі,
Спадніца Настулі,
Кашуля Антолі,
Ясёнка Аўдолі...
Штаны Апанасу,
Камзэля Тарасу,
А беднай краўчысе
Зацірка — у місе...»

А ў часе гаворкі гарачай
Прасіла: «Ша, дай жа мне спокой!»
Спакой уяўляла, няйначай,
Іконаю, самай высокай.

# Лятунак

«Ты раскажы пра цара Леаніда,
Ты мне пра Вітаўта-князя скажы...

Дай Іарданам душы наталіцца,
Роднай Гарыні вярні чысціню...

Не Клеапатраю, не Месалінай,
Ганнай палескаю будзь для мяне...» —

Гэтак пачаўшы,
Добра было б скласці дзённік
І назваць яго
«Лісткі календара» ці «Мая анкета»,
А на апошняй старонцы занатаваць:
«Роднае заўсёды застанецца родным
І заўсёды пераможа бяду!
Разумеючы гэта,
Пятро Глебка ў 1936 годзе
У вершы «Летні дзень»
Стварыў святочны малюнак:
*...Выйшлі стройнымі радамі*
*Загарэлыя касцы...*
*У кашулях ярка-белых,*
*У чырвоных паясах...»*

# У 1995 годзе

Жыццё адно і смерць адна,
А вёснаў шмат ужо мінула.
Аднак была адна вясна —
Пяшчоты поўная прачулай.

І я казаў тады, што мне
Праз два світанні будзе сорак —
Дно крыўды, бо на гэтым дне
Я не знайду спрыяльных зорак.

А ты павінна іх знайсці,
Іначай згубіш век дзіцячы;
Ты ўбачыш у маім жыцці
Той край, якога мне не ўбачыць...

Неверагодная вясна
Неверагоднай застаецца.
Я разумею, што яна
Адна прыносіць кроў у сэрца.

## Мая асалода

Люблю я слухаць, падуладны Кону,
Як з вуснаў родных роднае гучыць;
Жыць там, дзе жыў, я застаюся жыць —
Як мова мне падказвае! — да скону.

## Д’ябал

Раптам не будзе куды і падзецца?!
Д’яблу тады, як суседу свайму,
Зла не рабі, і Гарынь усміхнецца
Табе і яму.

Маеш дзе жыць, а, магчыма, бяздомнік,
Рынеш у свет па-над гэтай ракой...
Пойдзе ж і д’ябал — сапраўдны паломнік —
Услед за табой.

# Лён

Хай роднае роднага лашчыць ільном;
Хай будзе прастора, адданая раю,
І хай немаўля, апавітае сном,
Ляжыць паміж бацькам і маці — не з краю...

## Ля ратушы — 1

Мужчына павінен ісці да жанчыны.
Жанчына павінна ісці да мужчыны...
І верыць павінен мужчына жанчыне,
І верыць павінна жанчына мужчыне.

У колішняй песні з вядомай прычыны
Пяецца так сумна, ажно да слязіны:
Мужчына — не сокал, калі без жанчыны.
Жанчына — не кветка, калі без мужчыны.

## Ля ратушы — 2

Колькі бывае мужчын у жанчыны?..
Колькі бывае жанчын у мужчыны?..
Ведаць павінны, відаць, месаліны,
І донжуаны ж ведаць павінны...

З той пракаветнай біблейнай часіны,
Як Бог свае рукі вымыў ад гліны,
Мала адной для мужчыны жанчыны
І аднаго для жанчыны мужчыны...

## Ля ратушы — 3

Мужчына шукае ў жанчыне жанчыну.
Жанчына шукае ў мужчыне мужчыну...
І так ад калыскі і да дамавіны,
Ад гліны біблейнай да нашае гліны.

Як доля адорыць спрыяльнай хвілінай
І пошук удалым завершыцца чынам,
То шчасце тады для мужчыны жанчына
І шчасце тады для жанчыны мужчына.

## Ля ратушы — 4

Мужчына пакрыўджаны век на жанчыну.
Жанчына пакрыўджана век на мужчыну...
Адно аднаго (і аб тым кожны знае!)
Якой драбязой — і ўжо не здавальняе.

Ад дзеда-ад шведа такая карціна!
А хто вінаваты? Чыя тут правіна?
Ды ён вінаваты, таму што мужчына,
Й яна вінавата, таму што жанчына.

## Ля ратушы — 5

Мужчына як мёд, бо як мёд і жанчына.
Жанчына як лёд, бо як лёд і мужчына.
Не дзень і не год — увесь час безупынна
Такія яны... Зрэшты, й быць так павінна.

Да долу не гнецца сухая галіна,
А ў песні пяецца пра Яся з Янінай, —
Таму й застаецца мужчына з жанчынай,
Таму й застаецца жанчына з мужчынам.

## Закладка ў нервовы раман

1

Як малады — пра асалоду дбай;
Шукай святло, якое падабаецца;
Свой век, настрой і пэўнасць не губляй;
Не будзь манахам, каб пасля не каяцца;

Сваё жаданне вольным пакідай,
Няхай звініць, як зорная манісціна!
І клопатам «...як жыць?» — не закрывай
Шум веснавы, бо ў ім схавана ісціна...

2

А ў старэчай млосці-злосці,
Як не раз было, загіне
Шал нястрымны маладосці,
Юр навек душу пакіне.

Ты, душа, такое сніла,
Нават бачыла наяве:
Старасць — шчырая магіла
Кожнай маладой забаве.

## Дзікая балерына

Ты — дзікая балерына;
Ты музу маю станцоўвала ў музку.
Табе я ўсё аддаваў, акрамя сына
І магчымасці думаць па-беларуску.

Ты, — развітальная сцюжа, —
Падаравала мне снежнае лета:
Танец маленькага Прынца з Ружай
На вузкім лёдзе гранітнага парапета.

І я хадзіў па карнізах
Спатканняў начных,
Лагодзячы лепшы з тваіх капрызаў —
Лона ўскалых.

Але аднойчы пад лідскае піва
Падумалася мне:
«Ты мяне асляпіла,
А я цябе — не...»

Хацеў спытацца: «Скажы...»
Прагнуў даведацца: «Ты б хацела...»
Аднак уцякала з маёй душы
Дзікая рызыка твайго цела.

О, як яно знікала, плыло
І не рабілася родным;
Адзіным у свеце такім было
Грацыёзна-плодным!

У яго апускаўся, як у раку,
І прасіў цябе з менскай далечы:
«Нарадзі мне дачку,
Мяне пакідаючы!»

## Ідучы ў Музычны завулак

Твая прысутнасць — поле, па якім
Ісці, ісці — губляць сябе самога...
Як лёгка па-акцёрску быць чужым!
Яшчэ лягчэй — іграць чужога!

Такім, такім... Быць не хацець сваім —
Хіба ж не асалода для Арфея,
Які чужы жанчынам быў чужым,
Таму падобны на сугнея.

## У Музычным завулку

Я жыву, бо ёсць яшчэ надзея,
Што аднойчы здарыцца такое:
Ты мяне навучыш быць Арфеем
І спакой знаходзіць у спакоі.

Я жыву і лепшага, чым гэта,
Анічога, пэўна што, не маю...
Быць Арфеем — гэта быць паэтам,
Што спявае болей, чым кахае.

# Навагодняя свечка

Дамы стомлены, спяць кавалеры,
Высыхаюць азёры віна,
А на нашым стале два фужэры,
Два фужэры і свечка адна.

Запалі навагоднюю свечку
І шампанскім крышталь абудзі,
І, нібы на маленькую вечнасць,
На блакітную свечку глядзі.

Што нам дамы і што кавалеры!
Залатая прайшла даўніна...
Ёсць у нашай маленькай кватэры,
Ёсць усё — ад агню да віна.

Ах, вы, дамы, і вы, кавалеры!
Ах, паэзіі вашай струна —
Засталіся ад вас два фужэры,
Два фужэры і свечка адна.

## Сон лілей

Млечны ўзор лілейнага святла
На нябеснай вышыты кашулі.
Стомленасць, як свята, надышла,
І лілеі белыя заснулі.

Сон лілей —
Ад змяркання да світання.
Сон лілей —
Ад чакання да спаткання.
Сон лілей —
Ад маўчання да прызнання.
Сон лілей —
Ад кахання да кахання.

Не каханак я, а твой паэт,
Ад сустрэчы нашае хмялею...
І дару табе я не букет,
А чароўны белы сон лілеяў.

## Убачанае пад сонцам

Што не аддадзена жанчыне,
То немагчыма зберагчы —
Лілеі, флёксы і вяргіні,
Плывіце Случчу да Гарыні...
Душа, спявай! Душа, маўчы!

## На вуліцы Нямецкай

Малюнак, убачаны ў сне:
Гадэцыя кінута ў снег.
Аднак ці магчыма такое
У Менску шынельным, ці не?!

Наяве такога — нідзе.
Звычайны гваздзік упадзе.
Гадэцыі ж, як мне здаецца,
Венецыяй плысці ў вадзе...

Як слаўна! Заместа маны
Прыходзяць раманныя сны, —
Гадэцыі чыстую цноту
Атульваюць снегам яны.

І ты, як зіма снегавая,
Святлу не шкадуеш святла
І кветку губляеш, якая
У сэрцы маім узышла.

## Песня снегу

Снежная ўся, як сама адзінота;
Снежная ўся, як журбота сама, —
Снежная ты, на радзіме гаркота...
Добра чытаць і не бачыць пісьма.

Ліра маўчыць. З алімпійскіх вышыняў
Свеціць лагода эладная ваз.
Тую эпісталу з родных Афінаў,
Пэўна ж, паэт напісаў і для нас...

Не спадзяваўся ні зверху, ні здолу
На дапамогу варожай казны, —
Простыя словы мяняў на глаголы,
Боль свой мяняў на вандроўныя сны.

Што натаваў у лісце? Невядома...
Толькі вядома адно — ў снегапад
Доля дарожная выгнала з дому
І не вярнула паэта назад.

Не прачытаны, не прачытаны
У завеі губляецца ліст.
Струны-літары, струны-літары
Не настроіць на шчасце лірыст.

І ніколі далёкая Грэцыя
Таямніц не раскрые сваіх,
І на ліры, што снегам замецена,
Вы не знойдзеце струн... хоць якіх.

## У Снежным завулку

У Снежным завулку
Так ціха, пяшчотна і ясна,
Што тут і паверыш:
Было яно, роднае Княства!

Гісторыкі хлусяць,
Занятак у іх мітуслівы.
Не хлусіць ніколі спакой,
Ён заўсёды праўдзівы...

І ў Снежным завулку
На дахі спадаюць дукаты —
Не хочаш, а будзеш:
Імгненна тут станеш багаты;

Дацягнешся кіем палескім
Ураз да кароны,
Як выпадзе шчасцейка
Стаць палюбоўнікам Боны.

## Вяртаючыся на Францысканскую

Як добра госцем быць у той жанчыны,
Якая просіць-патрабуе вершаў
На мове беларускай і за гэта
Частуе мёдам у завулку Снежным;

Як добра славіць каралеву Бону,
Яе партрэт угадваць у завеі
І варажыць у задуменні: «Сфорца...
Гучыць — як сонца і гучыць — як сэрца...»

Як добра слухаць, размаўляць і думаць
Пра ўсё і ні пра што адначасова,
А потым, ноч у зорах не крануўшы,
Ісці праз Менск гадзіну і другую...

Завулак Снежны, Кальварыйская, Няміга,
Феліцыянаўская... Ах, якія назвы!
А тыя кіламетры, што прайшоў я,
Як тыя пацалункі, што ў парозе.

Ноч на зыходзе, і яшчэ не днее,
І радасць набіраецца ў аорту,
І не ў жыцці — у Бібліі магчыма
Паганцу стаць апосталам адданым...

Натомлены, вясёлы, бесклапотны,
На Францысканскую вяртаюся паволі,
Каб скласці новае для хітрай Эл,
Якая просіць-патрабуе вершаў.

І раптам (мушу тутака прызнацца,
Што без прыслоўя «раптам» абысціся

І ў лірыцы чуллівай немагчыма,
Якой душа пазбавіцца не хоча...), —

Дык вось, ужо так сталася, што раптам
Я сам сабе прамовіў зледзянела,
Прагаварыў-прабедаваў-правойкаў:
«У горле сушыць і баліць у грудзях...»

Бядуе так нямоглая старая,
Так жаляцца чарнобыльскія дзеці,
І гэтак я паскардзіўся (шчаслівы!),
Адчуўшы боль імгненны і пякучы.

І прыпыніўшыся пад нейкай аркай,
Згадаў-успомніў Міхася Стральцова,
Знядужанага ў сукрутку бальнічным...
О, свеце родны мой!.. О, свеце ясны!..

## Каралева Бона любіла мёд

Каралева Бона любіла мёд,
І таму для яе, як лёду,
Вазілі ў Варшаву, двойчы на год,
Па восем пудоў з дваццаці калод
Давыд-гарадоцкага мёду.

Каралеву Бону адольваў сум,
Што ні сон — на Мілан дарога...
Тут — балоты, валокі, інтрыгі, тлум;
Там — радзіма, вясны кіпарыснае шум,
Закаханасці першай знямога.

Каралеве Боне спрыянне было
На радзіме жаданай памерці...
Адпускаючы з вуснаў паволі цяпло,
Пакідаючы ў сэрцы Гарыні святло —
Чару з мёдам трымала на сэрцы.

## Выпадкова ўбачыўшы спадарыню Эл на Францысканскай 21 лістапада 1999 года

Цябе кахалі іншыя, і я
Цябе кахаў таксама і кахаю...
У Менску, дзе не ўчуеш салаўя,
Ёсць салаўіная пасцель мая,
Як напамін пра існаванне раю.

Табе інакшае імя знайду
У сне ці ў гістарычным фаліянце!
Забудзь ранейшую сваю бяду,
Пчаліным золатам скажы: іду —
І расквітней мелісай у верандзе...

Нам дадзена апошняе, відаць:
І ў старасці, якая надыходзіць,
У вусны з вуснаў мёд перадаваць
І Менск, яшчэ савецкі, ўспамінаць, —
Менск мёду ў 91-м годзе!

Я ведаю: жыццё, як і было,
Жыццём незразумелым застанецца...
Атручанае страхам, б’ецца сэрца.
І, цемру нам пакінуўшы, святло
На атамы пустыя распадзецца.

# Праз тыдзень зноў на Францысканскай

З царквы ідучы дамоў,
Ты несла па Францысканскай
Кадзільны букецік дымоў
І сумку з ядою сялянскай.

У клопаце ні аб чым
Падумаў я без прынукі:
У нашых цудоўных жанчын
Заўсёды занятыя рукі...

Мне простай здагадкі стае —
Дайсці да шчаслівага сэнсу:
Занятыя рукі твае,
Але не занятае сэрца.

Эрот, не шкадуючы стрэл,
І мне, і багам абвяшчае,
Што толькі ў спадарыні Эл
Занятым яно не бывае.

## Калыханка для душы

Паглядзім на Венеру-заранку,
Што стаілася ў нашым акне,
І спяём для душы калыханку, —
Хай да ранку душа адпачне.

Засынай у Венерыным ценю
І спакойную сні далячынь,
Толькі цела, стамлёнае цела
Ты, душа, без пары не пакінь.

За акном не гамоняць таполі,
Не крычаць за акном жураўлі...
Для душы калыханку ніколі
Не спявалі яшчэ на зямлі.

Не знікае Венера-заранка
У высокай нябеснай глушы,
Хай гучыць для душы калыханка, —
Для самотнай заўсёды душы.

## Прынц і Ружа

Кінь каменьчык у зорную сцюжу —
Крышталёвы пачуецца звон.
Пра маленькага Прынца і Ружу
Нагадае адразу нам ён.

Баю-бай, крышталёвыя краскі
Узыходзяць у сіняй журбе.
Баю-бай, з гэтай вечнае казкі
Прынц і Ружа прысняцца табе.

Тую казку не раз мы чыталі
І здавалася нам кожны раз:
Прынц і Ружа для нас танцавалі
І спявалі таксама для нас.

Не палохайся доўгае сцюжы
І ніякай не бойся бяды —
Прынц маленькі і белая Ружа
Будуць побач з табою заўжды.

## Паблізу Нямігі

Што мне хочацца? Нічога.
Але хочацца найбольш,
Каб дзіцячая трывога
Затупілася, як нож.

Кроў з крыві не выцякае.
Смерць прыходзіць назусім.
А трывога — здань такая?
Ці душы застыглы дым?

Не, выяўная, што срэбра
І як золата само!
Ці ж такая не патрэбна?!
Можа, й так, ды ўсё дармо...

Так, дармо... З трывогай тою
Варта іншы верш пачаць:
«Хата родная чужою
Не была, а можа стаць...»

## На Ракаўскай

Трэба, сказаўшы: «Трэба...» —
Нешта зрабіць такое,
Каб рака абярнулася ў неба,
А неба стала ракою.

## На Сухой

Нічога тут не здарыцца такога...
Калі не здарыцца — то ўсё яно нічога!
А калі здарыцца — пальецца, нібы з рога,
То сэрца зноў жа скажа: «А, нічога...»

## Прамінуўшы Ратамскую

Нарэшце навучыўся жыць:
Маўчаць, ні з кім не гаварыць...
Пачуўшы развітання медзь,
Бяседай доўгаю п’янець
Хачу з самім сабой адным —
Такім разумным і дурным.

# Прамінуўшы Раманаўскую Слабаду

А гамерычны смех заўжды
І незаўжды (гады ў рады!) —
Найгеніяльнае мастацтва...

І самы час ужо прызнацца:
Смяяцца трэба і тады,
Калі не хочацца смяяцца.

## На Кальварыйскай

Люблю адзіноту,
Люблю адзіноту — скразную,
Як рана былой маладосці...
Люблю адзіноту,
Люблю адзіноту, якую
Сам Бог запрашае — у госці.

У той адзіноце
Гучаць клавесіны і флейты,
І цешацца добрыя эльфы;
Паэт закаханы
На дне беларускае мовы
Шукае пяшчотныя словы.

Той дзень блаславёны,
Калі вас ніхто не турбуе
Ні добраю весткай, ні злою;
Той дзень блаславёны
Дае адзіноту, якую
Заўсёды прымаю душою.

## На Койданаўскай

Дакрануўшыся да змяркання,
Я аднойчы падумаў аб тым,
Што старэнне (ці подых згасання), —
Гэта спаленай радасці дым.

Можна дыхаць ім, трызнячы крозы;
Цалавацца, як з флейтаю Пан;
Выціраючы даўкія слёзы,
Скласці льга вершаваны раман.

І чытаць яго зорцы аконнай,
Што губляе ў таршэрным агні
І спакой, і блакіт свой іконны,
І палескія ўсе прамяні.

Можна ўсё — можна гэта і тое;
Вандраваць, жывучы ў забыцці;
У жанчыны сваёй дарагое
Можна зноў суцяшэнне знайсці...

Ды нішто не паможа пазбыцца
Адчування гаркоты пустой, —
Ты яшчэ на паверхні, як быццам,
Але ты ўжо не той, ты — не той!

Ты — стары, тваё княства ніколі
Не заззяе крулеўскім агнём,
І, як Вітаўт у віленскім полі,
Ты не станеш ужо каралём.

## Раптоўна згадаўшы спадарыню Эл на Феліцыянскай 3 студзеня 2005 года

«Магу я ўсё — піць, як віно, ваду
І цалаваць на прызбе лебяду,
І лодку дубам называць магу;
Быць вольным і сядзець на ланцугу;

Дукатамі адорваць жабракоў,
Глядзець у вір Купалавых радкоў
І ў кожным слове бачыць лёс увесь,
І свет увесь, і нават страх увесь...

А ты — уява; можаш ты адно:
З'явіцца тым, што страчана даўно.
Мне спадзявацца на тваё з'яўленне,
Як на вачэй уласных вылячэнне...» —

Такі пачатак і канец такі,
У вершы гэтым захаваў я меру,
Аднак у думках ёсць яшчэ радкі,
Хай і яны ж учэпяцца ў паперу:

«Рану сваю сваім языком,
Схаваўшыся, моўчкі залізвай
І заставайся Дранько-Майсюком,
Вольным ад лялі капрызнай...»

## На Людамонцкай

Праўду сказаць — гора займець!
Лепей маўчы, Леанідзе!
Маці ж вучыла: «Праўда як смерць...
Скажаш — і смертанька прыйдзе...»

Мудрыя людзі маўчалі заўжды,
Бачылі толк у маўчанні,
Не гаварылі нават тады,
Калі бракавала трывання.

Цяжка ўгадаць: чым ратуецца свет?
Трохі, відаць, і мастацтвам,
Невыпадкова ж прыдумаў паэт
Вершычак — як ратавацца:

«Ты нікому не кажы,
Што хаваеш у душы
І не лезь у сварку,
Бо дадуць па карку!..

Лепей выпі чарку
І цыбуліну бяры,
І складанчыкам здзяры
З бульбіны прыгарку...»

## У кавярні «Вяроза» — 1

Цудоўнай весткай, слаўнай навіной,
Як не палацам, то сабачай будкай —
Любімая хвароба, будзь са мной,
У горле пакідай ланцужны гудат.

Ты — рэчаіснасць, думаць аб якой —
Усё адно, што думаць пра багацце, —
Яно ж, нібыта лекі, пад рукой
У тонкім шкле і парудзелай ваце.

Як шчыры служка, існую з табой
І марнасці былой не чую клікаў,
І ў гэтым столькі радасці малой!
І ў гэтым столькі радасці вялікай!

# У кавярні «Вяроза» — 2

Хварэць, каб рукі халадзелі
Бясконцым ледзяным агнём,
І каб здавалася нядзеля
У тыдні — не апошнім днём;

І каб, старая і сівая,
Шаптала музыка сама:
«Пустой ніколі не бывае
Душа, свабода і турма...»

# У кавярні «Вяроза» — 3

Што застаецца яшчэ?
Слухаць якіх дактароў?!
А застаецца яшчэ —
Слухаць уласную кроў!

Хворы, сядзі і лаві
Кожнае слова крыві
І выштукоўвай як след
Звыкла-любімы сюжэт:

«...жыў літаратар-жабрак,
Разбагацець ён хацеў;
Шмат ён пісаў ды ніяк
Грошай вялікіх не меў.

Што тут рабіць салаўю?
Торбай далей шамацець?!
Не. Пісаніну сваю
Кінуў, каб грошы займець;

Стаў гандляваць, і базар
Даў яму ўсё!.. І пасля
Жыў ён да смерці, як цар!
Пухам, шчасліўцу, зямля...»

Сумна з сюжэтам такім;
Гэты сюжэт, нібы дым, —
Боль аслабее, і з ім
Знікне сюжэт назусім.

Кліч яго потым, заві,
Сціжму губляючы слоў,
І ап'яняйся наноў
Шумам уласнай крыві.

## У кавярні «Вяроза» — 4

Цяжкую не падняўшы галаву,
Падумаў задаволена: старэю,
І раптам уявілася — жыву
Адно таму, што жыць не ўмею;

Адно таму, што слодыч надышла,
Напоеная лекавым смарагдам,
І да майго кранулася чала
Спачатку Вераніка, потым — Магда.

## У кавярні «Вяроза» — 5

А можа, я нешта Міцкевічу вінен?..
Ён Польшчы сапраўднай не бачыў ніколі,
А я на варшаўскай разводненай гліне
Арэхавым кіем выводзіў крамзолі.

І цешыўся вельмі з такога мастацтва
(Сірэне пісьмёнаў гліняных не сцерці!)
І надта не думаў, што можна сабрацца
Імгненна ў дарогу і ў турках памерці.

## У кавярні «Вяроза» — 6

Адкрыць адкрытае: «...і ты памрэш!»
Пакуль жывы, падварушы глаголы,
Прыдумай надпіс намагільны — верш
(Не сумны і не надта каб вясёлы),
Яго анёлы вывучаць найперш
І прачытаюць мудрыя жывёлы.

## У кавярні «Вяроза» — 7

Жыві — не памірай,
А схочацца памерці,
То ў ложку прычакай,
А не пад плотам смерці.

Не памірай — жыві...
Жыццё ўсё ж неблагое...
Хаценне ж у крыві
Віруе маладое!

Да старасці йдучы,
Хай вера застаецца
Хоць зоркай уначы,
Якою не сагрэцца;

Хоць летняю зімой;
Хоць Эл — жанчынай волі,
З якою — Божа мой! —
Нібы й не жыў ніколі.

## У кавярні «Вяроза» — 8

Змрок у пакоі. Гэты змрок —
Паэзія мая.
Ён перамыты, як пясок
У хвалях ручая...

Вада як лёд. На дне вясло,
І стронга ля вясла.
А сам пакой, як жарало,
Як холад жарала...

Я так святло й не запаліў,
І верш узнік такі
(Нібыта з каменю ён быў
І стронгавай лускі):

«Я — адзін, і ты — адна
Пасярод жыцця;
І пасцель у нас адна
І адно дзіця;

І другое ў нас было, —
Боль зімовых дзён, —
Ды нядоўга пажыло:
Сем кароткіх дзён...»

## У кавярні «Вяроза» — 9

Будзь самотны і галодны,
Еж падсушаныя слівы, —
Колькі часу ты самотны,
Столькі часу ты шчаслівы...

Вольга расказала ў горы,
Крымскія забыўшы чары,
Як Васіль на Чорным моры
Тры разы аб смерці марыў...

## Паводле філасофіі спадарыні Эл

1

Брат мучыць брата. Жонка мужа
І жонку муж, і бацьку сын...
Сямейных войнаў мы задужа
Спазналі... До! Не трэ! Амін!

І не набыўшы анічога,
І страціўшы сябе, бадай, —
У любасці такой убогай
Нам пекла ўсё адно што рай.

2

Аддаючы палавіну заробку,
Як непатрэбнае, лішняе штось,
З жонкай жыві, як і жыў, паасобку;
З дзецьмі таксама, калі яны ёсць.

Ведай: сямейнікі нашы да краю
Поўныя помсліваю бядой, —
Гэта агонь, што бясконца палае,
Нават калі ён заліты вадой!

## Неспакойны спакой

Пустата пустаты пачынаецца з пустаты.
Гэта ты, гэта ты і тады, калі нават не ты.
Гэта я, гэта я і тады, калі нават не я.
Пустата пустаты — ні зязюлі тут, ні салаўя.

Ты чужая чужому, і я для чужое чужы.
Немагчыма з'яднаць дзве душы, бо яны —
дзве душы;
Каб магчыма было, то Пісанне ў бясконцай
журбе
Не маліла б: любі твайго блізкага так, як сябе!

Мы не ворагі і не сябры, і мы ў лодцы адной
Апынуліся, бо не маглі апынуцца ў другой.
Бо ўжо сталася так, і спыніць гэту звыклую
плынь —
Немагчыма ніяк, так што нават і думаць пакінь!

Будзем плысці, шануючы свой неспакойны
спакой,
Ты на ўсход, я на захад, аднак жа ж у лодцы
адной.
Сам я буду з табою, са мною ты будзеш сама...
Пустата пустаты — праўды большай за гэту няма.

## Зорка. Анёл. Шчасце

Калядная зорка па-над Віфлеемам.
Былое не гіне, таму што было.
Язэп і Марыя, і сена бярэма.
У яслях дзіцятка, у сэрцы святло.

Каменныя сцены. Каменныя сходы
У яму каменную. Радасць вакол...
І сёння падумаю, поўны лагоды:
«Была гэта зорка? А можа, анёл?!»

І сёння я ведаю, поўны спакою, —
Было гэта шчасце, і толькі яно
Узносіць маю весялосць над журбою
І крыўду хавае на самае дно...

І я навучуся трываць, дараваць;
Я гэту навуку напэўна адужу...
І ворагу любаму дапамагаць
Я буду штодзённа сябе прымушаць
І ўрэшце прымушу, і ўрэшце прымушу.

## На Гандлёвай

Усё часцей я думаю аб тым,
Што вырасла сцяна (гара гарою!)
Паміж пісьмом евангельскім святым
І золатам атручанай царквою.

Не разбуру высокае сцяны,
Бо ад яе займеў ужо надзею
Хрыста спазнаці без папоўскае маны
І без ксяндзоўскага ялею.

## Гефсіманскі сад

Плакаў Гефсіманскі сад
І сваіх не бачыў слёз;
Чару смерці выпіць сам
Прагнуў, каб не піў Хрыстос.
Плакаў Гефсіманскі сад...
Чалавечы Сын маліў Айца,
Каб страх яго мінуў.
Спалі ўсе, — Ён не заснуў.
Спалі ўсе, — маліўся Ён,
І Яго малітву чуў
Край аліўны і пад зорамі Кедрон.

Ноч малітвы мінулася,
Дзень пакуты надышоў...
І па сёння плача-каецца
Кожнай сваёю аліваю
Гефсіманскі сад.

## На Ерусалімскай

Паводле аналойных ведаў:
Жыццё — заўсёды пекната...
Як проста ўсё: любі суседа —
І спраўдзіцца закон Хрыста.

Любіць суседа-чалавека?!.
Магчыма людства палюбіць
Усё — ад фіна і да грэка,
А чалавека, чалавека...
Бронь, Божа, толькі б не забіць!

## Еўфрасіння

Ты спачын знайшла
У палесцінскім краі,
Журба аліў злятае
З твайго чала.
Твае малітвы памятае
Вечная зямля святая.

Еўфрасіння, пад алівамі
Сніла ты ў апошнім сне
Воблака шчаслівае,
Што купалася ў Дзвіне;
Сніла і той дзень балесны,
Калі брала шлюб нябесны...
Полацак свой бачыла ў тумане!

Цень жалобы лёг
На твар Ерусаліма...
Жыла ў душы радзіма,
А ў сэрцы — Бог.
Плыла радзіма над вачыма
Сінім дымам, сінім дымам.

## Маладая мнішка:

Даруй, каханы мой, даруй,
Цябе я страціла, згубіла.
Адчуй, каханы мой, адчуй:
Што мне зрабілася няміла!

Валошка радасці сышла
У ружу вечнае пакуты.
Мой боль — бясконцая імгла —
Ці будзе Госпадам пачуты?!

Жыццё нябачна праміне,
Напіша іншыя імёны —
Каханне ж застанецца мне,
Нібыта свечка ля іконы.

Аднак у вызначаны час,
Нібыта ў сне зачараваным,
Ля брамы полацкай якраз
З табой сустрэнуся, каханы!

## «Безнадзейнасьць»

Ты сонца з месяцам звёў у адно,
Кірыліцу лячыў пчаліным мёдам,
Піў Саламона мудрае віно,
Еў хлеб Майсея, апускаўся ў одум, —

І нас, цяперашніх, не аб'яднаў...
І таямніца ўсё ж, я так мяркую,
З якое мовы Ты перакладаў
І на якую?!

## «Любы князь...»

Чорны вецер у тугі атлас
Укруціў чырвоную каліну...
Пакідаў княгіню мужны князь,
Ехаў бараніць сваю краіну.

І княгіня выйшла на балкон
Пакланіцца і сказаць малітву,
Ды не ўбачыў князь яе паклон
І малітву не расслухаў ён, —
Конь ужо імчаў яго на бітву.

У чаканні дзень за днём ішоў
І ніякіх вестак не прыносіў,
І вяртанне звонкае падкоў
Пыл не падымала на дарозе.

На балкон ляцелі галубы,
Ды часцей прылётвалі вароны,
І княгіня выйшла ў час мальбы
Да каліны, быццам да іконы.

І пачула праўду ўсю яна,
Распытаўшы сумную каліну,
Што даўно ўжо скончана вайна
І што князь абараніў краіну.

Але з дня шчаслівага таго
Ажаніўся з юнай паланянкай,
І цяпер княгіня для яго
Аніхто — ні жонка, ні каханка...

«Любы князь...» — ціха плакала княгіня.
«Любы князь...» — з ёю плакала каліна...

Слухай, князь, паланянку сцеражыся
І жывы да жонкі роднае вярніся!

## Мова Беларуская

*Рыгору Сітніцу*

Заўсёды будзе белае;
Заўсёды будзе чорнае;
Багатае і беднае,
І хмарнае, і зорнае;

Святое і... распуснае,
Бо і яно ж нязводнае...
А Мова Беларуская
Заўсёды будзе роднаю!

*22 снежня 2011 г., чацвер,*
*13 г. 10 хв., Менск.*

## Мірскі замак

Мірскі замак успомніў пра нас
Дзеля нас, каб сябе не забылі
І каб зноў, як бывала не раз,
Мы сваё ж у чужым не згубілі.

Мірскі замак жывое жывым
Захаваў, а пустое — забытым;
Кожнай вежай і мурам сваім
Засцярог родны край ад нябыту.

Мірскі замак з гасподняй расы
І трываласці гэтага люду
У маўклівасць вярнуў галасы
І святло, адпаведнае цуду.

Мірскі замак для нашай душы,
Што душою забылася звацца,
Напамінак — на роднай мяжы
Толькі роднае можа застацца!

## У Лісабоне

Там, дзе бывае ціха зусім, ціха зусім,
Я разумею: дом — гэта дом, дым — гэта дым...
Самае лепшае там, дзе імгла, —
Падабацца ўсім,
Падабацца ўсім;
Самае горшае ў полі святла —
Заставацца нікім,
Заставацца нікім...

У Лісабоне якраз і было ціха зусім, ціха зусім,
Думанне тое ж: дом — гэта дом, дым — гэта дым...
Зведаў навуку самому сабе
Уяўляцца чужым,
Уяўляцца чужым —
Тым, што стаіць пры жабрацкім стаўпе
З кубкам пустым,
З кубкам пустым...

## А пятай раніцы ў Лісабоне

Спіць інтэлект, а золак ужо просіць,
Каб я пра цемру і паэзію зрабіў
Старонкі тры аналітычнай прозы,
Надуманасць аздобіўшы ў наіў,
Пачуццямі крануўшы дух цвярозы...
І я, прачнуўшыся, усё б, як след, зрабіў,
З каменнай гліны б коніка зляпіў —
Але напружвацца, каб быць разумным, досыць!

## Думаючы пра Максіма Багдановіча ў Лісабоне

Лагоды не было й не будзе,
Бо сварацца спрадвеку людзі...
І дзень, і ноч, і год, і век
Грыз чалавека чалавек.

Грызня й па сёння не ўціхае,
І тое *добра*, уважаю,
Бо дзякуючы сваркам гэтым
Люцыпар не губляе мэты;

Кроў не застойваецца ў жылах,
І менее сяброў панылых,
І нават лад не быў бы ладам,
Каб не было на свеце звадаў...

Ды ўсё адно паэт з малітвай
Пытаецца ў сваім верлібры:
«...нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі...»

## Размова з венгерскім паэтам у Лісабоне

Вы кажаце:
«Памежны з Аўстрыяй Сомбатхей
Славуты архітэктурай рымскай даўніны...»

А я кажу:
«Яшчэ й тым, што ў ім нарадзіўся Рудольф —
Бацька Леапольда Блума...»

Вы кажаце:
«Цэнтр медзье Феер Секешфехервар
Знакаміты руінамі раманскай царквы...»

А я кажу:
«Яшчэ й тым, што ў ім жыў Стэфан —
Стрыечны брат Рудольфа...»

Вы кажаце:
«У Венгрыі надпіс «Віраг» (кветкі)
Сустракаецца на шыльдах часцей за іншыя
надпісы...»

А я нагадваю:
«Менавіта Віраг — прозвішча Рудольфа,
Бацькі Леапольда Блума...»

Уздыхаеце:
«Уліс» — мой нелюбімы раман...»
Уздыхаю таксама:
«І мой...»

# Ноч у Мадрыдзе 8 чэрвеня 2000 года

Каб дыхаць, як дыхаюць зоркі, —
Прастору не рві на прасторкі
І свет не дзялі на малое...

Забудзь пра дурныя разборкі;
Ідзі да Купалы, да Лоркі, —
Да роднай душы і чужое!

# Еўропа — дзяцінства

## 1

Антарктыда — смерць, Азія — старасць, Амерыка — сталасць, Афрыка — юнацтва, Аўстралія — малалецтва, Еўропа — дзяцінства...

Такой «узроставай» вобразнасцю вызначаў часткі свету прапаршчык Хахалін, начальнік тэлеграфнай станцыі, на якой я, дваццацігадовы салдат, служыў з лістапада 1976-га па травень 1978 года.

Станцыя гублялася ў глыбіні беднага саратаўскага стэпу і толькі таму мела права на існаванне, што кожнай раніцы на яе парозе з'яўляўся заўсёды лагодны (злавацца гэты чалавек не ўмеў) прапаршчык Хахалін.

У школьныя свае гады мой мілы начальнік складаў вершы, і, відавочна ж, заняткі версіфікацыяй абудзілі ў яго рахманай душы здатнасць да метафарычнага мыслення.

Перад тым жа, як на ўсё жыццё стаць вайскоўцам, мой рамантычны камандзір трошкі павучыўся на геафаку, таму геаграфія была ягонай улюбёнай навукай.

Салдаты называлі зычлівага прапаршчыка географам, і кожны, хто хацеў да яго паддобрыцца (а зрабіць гэта было зусім проста), само па сабе, заводзіў гаворку на геаграфічныя тэмы...

Дык вось, вызначэнні прапаршчыка Хахаліна мне вельмі падабаліся, я дастаткова змястоўна ўяўляў іх у маркотным стэпе.

Праўда, старасць Азіі, юнацтва Афрыкі і малалецтва Аўстраліі здаваліся крыху прыблізнымі вобразамі.

Аднак жа тое, што Антарктыда — смерць, Амерыка — сталасць, а Еўропа — дзяцінства, не патрабавала лішніх доказаў і тлумачэнняў.

І сапраўды, хіба антарктычная лёдавая пустэльня — не праўдзівае аблічча смерці?

Хіба амерыканская тэхнапрастора — не дакладнае сведчанне сталасці?

А хіба наша еўрапейскае моцарціянства — не зялёны сад, па якім бегаюць, у якім блазнуюць геніяльныя неслухі?

Я быў упэўнены: усё гэта так.

Упэўнены і сёння.

Таму (паводле «сістэмы» Хахаліна!) натую: Еўропа — гэта дзяцінства; Еўропа — не Стары, а Дзіцячы свет.

Асноўнае гучанне гэтага свету — прастадушная калыханка; самы славуты ваявода — дзяўчынка Жанна д'Арк; найбольш запамінальная скульптура — хлопчык, які спрабуе выцягці з пяткі балючую стрэмку; галоўныя ж літаратурныя героі носяць у душы знакі непазбыўнай дзіцячасці.

Дарэчы, усе гэтыя бясконца нудлівыя гамлеты і донкіхоты ў дваццатым стагоддзі абавязкова б сталі апалагетамі абаяльнай бессэнсоўнасці, нявіннай бязладнасці і свядома-дурнаватых на паперы крамзоляў — гэта значыць, авалодалі б, дзякуючы ўсё той жа сваёй непазбыўнай дзіцячасці, эстэтыкай дадаістаў.

Уяўляю сабе дадаіста Гамлета і дадаіста Дон Кіхота!

Шкуры на сабе не чуючы, яны ўдосталь нагуляліся б драўлянымі конікамі Тцары і Брэтона.

Перакулілі б не адзін стол і шафу, высадзілі б не адну шыбіну і дзверы, пабілі б не адзін вазон і лямпу, упэўненыя — за такія свавольствы ніхто іх працвічваць не будзе...

## 2

На маё разуменне, дзіцячае — значыць адкрытае, а зусім не бестурботнае.

А Дзіцячы свет — зусім не тое, што і дзіцячы лепет.

Увогуле пра *дзіцячы свет* нельга казаць блага, таму я свядома ідэалізую Еўропу.

Палітра мая знарок — поле светлых фарбаў.

Нягледзячы на ўсіх існых і няісных неронаў; на ўсе доўгія рэлігійныя войны; на інквізіцыі і рэвалюцыі; урэшце, нягледзячы на дзве сусветныя бойні, — філасофія майго любімага кантынента па-ранейшаму застаецца ў далікацтве і геаграфічнай кароткасці, якая наталяецца паветрам маленькіх дворыкаў і цацачнасцю адлегласцей.

Невыпадкова ж Мандэльштам звяртаў увагу на знакавую цацачнасць Еўропы, калі пісаў пра галандцаў, якія на хадулях жураўлінай хадой прабягаюць сваю маленькую краіну.

Невыпадкова ад Пірэнеяў і да Альпаў, ад Ардэнаў і да Апенінаў пацеркамі рассыпаны дробныя дзяржаўкі — Андора, Ліхтэнштэйн, Люксембург, Манака, Сан-Марына, як невыпадкова і тое, што любімая еўрапейская забаўка заўсёды юрлівага д'ябла — ажурная сукенка Эйфелевай вежы.

Вінаграднікі Еўропы ахоўваюцца не атлетычнымі вартаўнікамі, а жоўтымі ружамі; замкі, як немаўляты, туга спавіты густым супакойлівым плюшчом, і нават віно ў твой кілішак льецца па немаўлячай мерцы — тры кармінавыя кроплі.

Маладзенец, малеча, малюта, малагодак, урэшце, прыслоўе *мала* — найбольш дакладны лексічны партрэт Еўропы, а яе гербам (для мяне тут сумненняў аніякіх!) з'яўляецца — калыска.

Пад такім хісткім, але выразным геральдычным знакам здалікачаныя ўладары любяць пазбродаваць, пабрышкаваць.

Яны ўпарта і весела размахваюць белымі кракетнымі малаткамі, а гандляры штовечар на апошняй банкноце ўтаргаваных грошай задаволена, паводле свайго калярова-лялечнага ўяўлення, малююць яблычны тварык усмешлівага крэза.

Уладары і гандляры даверліва, шырока адчынілі ў свет браму свайго вабнага двара, і праз тую браму ў еўрапейскі двор ідуць і йдуць дарослыя выхавальнікі з азіяцкай далечы і афрыканскай разлегласці.

Яны строга выхоўваюць гарэзлівых белатварых аўтахтонаў сваёй анархічнай прысутнасцю, мінарэтным тужлівым лямантам, драпежнай пяшчотай мусульманскіх вачэй.

А што ж еўрапейскія ваяўнікі і святары?

Ды тое ж самае!

І яны ніяк не могуць здаволіцца ўжо звыклымі забаўкамі.

Яны дзівачаць — праўдзівей, бароняць і ўслаўляюць культ Дзіцячага свету.

Ваяўнікі бесклапотна штурмуюць у кардонным космасе кардонныя фартыфікацыйныя макеты (праўда, часам, на жаль, так здараецца, што «кардонны космас» ператвараецца ў рэальную краіну, а «фартыфікацыйныя макеты» — у разбомбленыя гарады гэтай краіны), а святары хаваюць пад сутанай у патаемных кішэньках дробныя ў выглядзе крыжыкаў цукеркі і, адвярнуўшыся, каб ніхто не пабачыў, ласуюцца імі.

Тым часам еўрапейскія спартоўцы ўтрапёна мардуюць скураны гарбуз мяча...

Тыя, што перамаглі, як малыя дуронікі, скачуць, абдымаюцца, ірвуць з сябе адзеннейка, з радасным віскатам і галёканнем падаюць адзін на аднаго.

А тыя, што прайгралі, — горка румзаюць.

І тут ужо ніякая маці іх не суцешыць...

Еўрапейскія ж месаліны ў нястрымным імкненні да неверагодна-пажадлівых уцех прагнуць ператварыцца ў німфетак, а еўрапейскія казановы, зняверыўшыся ў сваіх манерных палюбоўніцах, зайздросцяць хлопчыкам, якія ўмеюць самі сябе кахаць.

А еўрапейскія старыя?

А старыя, гэтыя музейна дагледжаныя дзяды і бабулі, трапіўшы ў пенсіённы вір, наогул губляюць развагу, уласцівую самавітым гадам.

У кароткіх, адно да падагрычных калень, нагавічках (па адзенні і слепавата дураслівым выглядзе — дзеці наадварот!) яны кідаюцца на скрут галавы гойсацьвандраваць па ўсім свеце.

І тады старанным арабскім ці турэцкім гатэльным пакаёўкам хочацца карміць іх з лыжачкі і гушкаць на руках.

Еўрапейскія старыя, гэтыя выпешчаныя філемоны і баўкіды, гуляюцца з парыжамі і мадрыдамі, амстэрдамамі і рымамі, як з бразготкамі, якія вельмі дарага каштуюць, — гучна стукаюць імі аб стол, шпурляюць на падлогу і вішнёва ружавеюць у сваім залівістаўцешным смеху.

З таямнічай для іх бразготкай Менска абыходзяцца, дарэчы, больш абачліва.

Можна сказаць, пачціва.

Аб стол ёю не б'юць, на падлогу не скідваюць і менш ружовасці напускаюць у сваю дарожную асалоду.

А залівістага смеху дык амаль не чуваць.

У Менску еўрапейскія старыя, як у чужым гародчыку.

Тут ім шмат выпадае трывогі і напружанасці.

Тут яны робяцца яшчэ большымі дзецьмі, чым былі дагэтуль.

І толькі тут іх пачынае цалаваць сапраўдная бездапаможнасць...

Вось яны, азіраючыся і не выбіваючыся з маруднай чарады, ідуць па Нямізе, а я гляджу на іх і ўспамінаю назіранне Кузьмы Чорнага: «У моманты вялікіх душэўных зрухаў або напружанай змены падзей ці жыццёвых акалічнасцей... старыя робяцца як дзеці...»

## 3

«...Амерыку адкрылі даўно, а Еўропу яшчэ не адкрылі.

Можаце сабе ўявіць — яе забыліся адкрыць!

Нас чакае самае вялікае геаграфічнае адкрыццё!

З'явіцца новы Калумб, можна сказаць, Антыкалумб, бо ён прыплыве з Амерыкі і ступіць на бераг Еўропы, каб шчыра пераканацца ў відавочным: калоны Парфенона — маладзейшыя за небадомы Нью-Йорка, а друкарскі варштат Гутэнберга — за *словасвет* (інтэрнэт)...»

Гэта вынятка з майго нядаўняга ліста да цудоўнага прапаршчыка Хахаліна, які, называючы Еўропу дзяцінствам, мусіць, тым самым падсвядома сцвярджаў: Еўропа — гэта ўсяго толькі геніяльны пачатак.

# Водар вільготнага траўня

Чуючы салодкую блізкасць аэрапорта, самалёт нізка пралятае над Лісабонам.

У адным з дамоў у адчыненым акне, што пад самым чырвоным дахам, паспяваю заўважыць суламітную жанчыну.

Яшчэ больш пабліжэўшы да зямлі, самалёт паволі праплывае над гэтым чырвоным дахам, і жанчына знікае — для маёй памяці назаўсёды застаецца ў тым адчыненым акне...

Калі сказаў, што жанчына больш прывабная, калі знікае, — то на гэта шведская пісьменніца Інга-Ліна Ліндквіст прамовіла:

— Паэт больш прывабны, калі знікае!

Акцэнт быў зроблены на слове *п а э т*.

Атрымалася не проста ўдакладненне маёй свядомапрыметнай думкі, а прыемная мне заўвага і відавочная прапанова — гаварыць не пра жанчын, а пра паэтаў.

Але гаварыць пра паэтаў у Лісабоне — усё адно, што за астраномію беларускіх *зайчыкаў* купляць «Дзённік» Хрыстафора Калумба.

Занятак яркі і безвыніковы.

Бо Лісабон — не Парыж.

У каравельным Лісабоне і ў двухтысячным годзе льга хіба што паважна гутарыць пра паэзію каталіцкай экспансіі.

Чаму?

Ды, мусіць, таму, што ў каравельным Лісабоне будынкі нагадваюць папскі флот перад адплыццём у невядомы і таму больш новы, чым усім вядомы Новы свет.

І ўсё ж мы гаварылі пра паэтаў.

Нават пайшлі ў заклад.

На сімвалічную жменьку еўра!

Дзеля жарту ўмовіліся, што тут, у Лісабоне, Інга раскажа пра Фернанду Песоа, а там, у Парыжы, куды мы прыбудзем праз два дні, я распавяду пра Гіёма Апалінэра.

Выйграе той, хто ў сваёй вуснай аповесці будзе найбольш банальны.

Так, банальны, — менавіта такая абавязковая струна звінела ў нашай дзівацкай умове.

Словам, Інга павінна была расказаць пра тое, пра што ведаў я, а я пра тое, пра што ведала Інга.

І вось я слухаю пра Фернанду Песоа — пра сціплага і маўклівага містыка, які не спазнаў жаночай пяшчоты; баяўся звар'яцець; вывучаў праблему славы; любіў павучаць сяброў: новы дзень — тады новы, калі прыносіць новыя вершы; быў упэўнены, што хрысціянства паспрыяла заняпаду заходняй культуры; доўга і пакутліва ішоў з англійскай мовы — у родную, партугальскую.

А яшчэ, паводле Інгі, — вялікі партугалец некалькі разоў на дзень праціраў спіртам свае акуляры; любіў кідаць у Атлантычны акіян цыбулю (у кішэнях яго лонданскага гарнітура заўсёды было з дзясятак цыбулін); тушыў папяросы не ў попельніцы, а ў шклянцы з рэштай віна; спаў не на падушцы, а на кнізе, якую чытаў перад сном; галіўся, гледзячы не ў люстэрка, а на бліскучую металёвую паверхню чатырохствольнага пісталета; жабракам даваў не грошы, а ежу (часцей за ўсё скрылікі свежага сыру); у кавярні звычайна займаў два крэслы — адно для свайго чорнага шыракаполага капелюша; заўсёды меў пры сабе маленькую асадку, зробленую з кракадзілавага зуба; за свае сорак сем гадоў шмат напісаў, але неверагодна мала друкаваўся.

У выніку — пакінуў па сабе воз рукапісаў.

Інга, вядома ж, не забылася і пра схільнасць Песоа да гетэраніміі — то-бок, расказала пра любоў паэта да псеўданімаў і тым самым нагадала мне, што шматімённасць выказвання — першая адметнасць гэтага пісьменніка.

Зрэшты, можна падумаць і так: ён не любіў уласнае імя, а мэту вершаванай творчасці бачыў таксама і ў тым, каб падпісваць свае тэксты ўсё новымі і новымі выдуманымі прозвішчамі.

Таксама я даведаўся і пра абулію Песоа, пра ягоную (так і хочацца сказаць: беларускую!) нерашучасць, і дазнаўся: віно для яго было адзінай магчымасцю, каб разгаварыцца, і што ён гэтак жа ўпарта «абжываў» новыя імёны, як некалі Партугалія абжывала новыя заакіянскія землі.

Песоа, мусіць, так і не выпусціў бы ніводнай кнігі па-партугальску, каб аднойчы, зусім выпадкова, маючы адно клопат схавацца ад спорнага дажджу, не зайшоў у кінатэатр, дзе ўбачыў карціну Алівейры «Дору, цяжкая праца на рацэ».

Фільм уразіў, як завершаны, адрасаваны партугальскай публіцы, прадукт мастацтва.

І Песоа закарцела ўбачыць, адчуць сваю публіку; захацелася зразумець роднага чытача і адрасаваць яму кнігу — завершаны знак уласнай творчасці.

Абулія прыглушылася, і колькі тыдняў запар з неабдымнай рукапіснай блытаніны паэт вызваляў тыя старонкі, якія і склалі ягонае адзінае асобнае прыжыццёвае паэтычнае выданне на партугальскай мове.

Сваю «банальную» аповесць Інга завяршыла гэтак — Песоа марыў пра незвычайнага генія, чакаў з'яўлення нейкага Звыш-Камоінша.

Самому ж Камоіншу зайздросціў.

Так, датклівы і празмерна-чулы, ён зайздросціў Луішу Камоіншу — салдату, дуэлянту, выгнанніку; зайздросціў творцу, які не ведаў, што такое абулія...

Інга змоўкла, і я лёгка ўявіў цудоўнага зайздросніка: вось ён ідзе па мястэчку Кашкайш, а вось на камяністым беразе акіяна дастае першую цыбуліну і па-дзіцячы яе шпурляе ў лазурковую ваду; пасля дастае другую цыбуліну, трэцюю...

Пакуль цыбуля падае ў акіян, мне лёгка думаць пра набліжаную роднасць Фернанду Песоа з Максімам Багдановічам і Францішкам Багушэвічам.

У Багдановіча таксама ж — пакутлівы шлях да роднай мовы і таксама ж — адзіная на гэтай мове прыжыццёвая кніга.

А ў Багушэвіча — усё тая ж любоў да псеўданімаў...

Партугальская свечка нашага падарожжа, задаволена патухаючы, прывяла ў сон, у якім — маю дарогу перабягаў сабака.

Пэўна ж, гэта на Парыж, калі дарогу перабягае партугальскі сабака!

І мы апынуліся ў Парыжы, і нам нібыта адамкнуўся рай.

Ад нервовай узрушанасці я нічога не мог сказаць, — мова паволі пакідала мяне.

Флабэр слушна гаварыў: ёсць рэчы, якія лягчэй выканаць, чым выказаць словамі.

Я не мог надыхацца апельсінавым паветрам вакзала Манпарнас, на які мы прыехалі, і ўсё ніяк не мог наталіцца бясконцым малечым адчуваннем: нарэшце зноў убачу тое, што бачыў і што неаднойчы за апошнія восем гадоў зноў хацеў убачыць.

Я глядзеў на манпарнаскую вежу, за якой выяўна ўгадваўся малахіт Люксембургскага саду, і мая прысутнасць тут самохаць ішла ў турму метафарычных кроз.

У лютым 1992-га назваў манпарнаскую вежу сляпым небадомам.

Гэта перш за ўсё таму, што меў вельмі мала франкаў і з такой істотнай прычыны хараство Парыжа рабілася для мяне крыху слепавата-убогім.

З савецкіх рублёў французы тады смяяліся.

Два месяцы адно мінула па знікненні ленінскай імперыі, а з яе грошай ужо стаяў смех.

Праўда, не зларадны — проста вясёлы.

Бо французскі...

Дык вось, валюты ў мяне больш, чым тады, але небадом, як і быў, так і застаецца сляпы, — сваімі прыцемненымі вачыма-шыбамі па-ранейшаму, як мне здаецца, нічога не бачыць.

І мне захацелася падараваць яму арэхавую кавеньку і сабаку-павадыра, таго самага — партугальскага...

З бульвара Важырар я патэлефанаваў у Менск Васілю і Вользе, пасля — у Хельсінкі Някляеву, а тым часам дапытлівая Інга маўкліва патрабавала маёй вуснай аповесці пра Апалінэра.

Інга прагнула пачуць пра тое, пра што ведала сама.

Яна хацела казку пра караля, які змайстраваў сабе карону з эмігранцкай гаркоты і аддаў на гэта сіл болей, чым на саму творчасць.

Інга спадзявалася, што я назаву Апалінэра жартаўнікам, імправізатарам, штукаром, донжуанам, рамэа, рыцарам, жаўнерам, акопнікам, пакутнікам, метэкам, італаславянінам, няпраўдзівым французам, вязнем, выдумлякам, завадатарам, веселуном, багемнікам, таўстуном.

Урэшце, містыфікатарам...

Інга жадала празрыстага, як тонкі лёд, і крыху цынічнага ў сваёй дакладнасці адкрыцця, якое, ёй так

уяўлялася, было асноўным у сутарэнні Апалінэравага жыццяпісу.

Я ведаў: змест гэтага адкрыцця любы французскі, і не толькі французскі, літаратурны пачатковец здолеў бы імгненна накрэсліць чорнай крэйдай (мусіць, і такая ёсць) на чорнай дошцы!

Спытаеце: чаму чорным па-чорнаму?

А каб не кожны прачытаў.

Іншы раз трэба шанаваць генія, які шмат навыдумляў чароўных глупстваў і, ап'янены гульнёй у нечаканае, часам парушаў этычную мяжу, строячы кепікі, напрыклад, са сваёй маці: маўляў, яна пабывала ў ватыканскіх альковах, у выніку чаго і з'явіўся на свет божы ён, Гіём — сын Папы Рымскага...

Дык вось, Інга чакала, але я не жадаў гаварыць пра тое, пра што яна ведала, і ўвогуле не хацеў быць пераможна банальным.

Я хацеў прайграць Інзе, бо я той, хто жанчынам прайграе; я наогул люблю, калі жанчыны мяне перамагаюць.

Каб не маўчаць, вырашыў абысціся жартам: у першы свой парыжскі прыезд (вядома ж, думаючы пра Апалінэра, як і пра тое, каб некалі зноў прыехаць сюды) кінуў у Сену залатоўку.

Перад тым, як назаўсёды знікнуць у вадзе, манета па-зімоваму скупа бліснула і навяла на думку: Парыжу пагражае нашэсце базарнай славяншчыны!

Інга разгадала мой выкрут і настаяла на выкананні нашай умовы.

І тады я запрасіў Інгу ў сквер адваката Ларана Праша, — у той самы завушнічна-маленькі зацішак, што каля абацтва Сен-Жэрмен-дэ-Прэ, куды я кожны дзень на працягу двух тыдняў хадзіў у 1992 годзе, каб

глядзець на бронзавы бюст Апалінэра работы Пікасо і пісаць сваю «Стомленасць Парыжам».

Па дарозе пераказваў асобныя эпізоды гэтай прозы.

Інга маю прозу не ведала, і з гэтага вынікала, што я парушаў нашу ўмову, бо апавядаў пра невядомае.

Больш за тое, — спрабаваў адгадаць не пакладзеныя на паперу запісы Апалінэра.

Напрыклад: «Жанчына стварае водар вільготнага траўня...»

Угадваць не занатаванае значна цікавей, чым распавядаць пра ляноту паэта або ягоную сялянскую працавітасць, баязлівасць або няхай сабе і рыцарскую мужнасць...

Падыходзячы да сквера, сказаў і пра тое, як тады, восем гадоў назад, у самы дзень ад'езду чыста літаратурна ўявіў, а пасля і занатаваў, што аднойчы бронзавы Апалінэр прападзе, знікне.

Інга засмяялася:

— Ты прыдумаў вельмі дакладную ілюстрацыю да аповесці «Смерць паэта»!

— Магчыма, — адказаў, пазнаючы абацтва Сен-Жэрмен-дэ-Прэ.

Мы абышлі святы мур.

Вось ён — завушнічны скверык.

Я зірнуў... і на мяне абрынуўся нязвыклы, невядомы дагэтуль холад, нібыта маю душу прыціснула вялізным ледзяным каменем.

Бронзавага Апалінэра не было.

Бюст сапраўды знік.

Застаўся адно пастамент.

У сваёй парыжскай прозе я напрарочыў: скульптуры не будзе!

І вось яе няма!

Адчуў сябе задаволеным (маё прароцтва спраўдзілася!), і адначасова з гэтым вінаватасць варухнулася ў душы (на табе — нагуляўся ў прадказанні!).

Здзіўленне, скутае раптоўнай трывогай, апанавала мяне.

Каб хоць як супакоіцца, пакінуў Інгу каля пустога пастамента, а сам прайшоўся па вуліцы Апалінэра (яна ж зусім побач), — па той самай вулічцы, якую ў «Стомленасці Парыжам» назваў манументальнай мініяцюрай.

У даўжыню (дакладна памятаю, бо мераў) яна ўсяго трыццаць восем крокаў — архітэктурнае выяўленне трыццаці васьмі гадоў, якія паэт пражыў!

Я зноў прамераў яе ўсю, але гэтым разам налічыў адно... трыццаць крокаў.

Вуліца нібыта паменела, сціснулася; нібыта ладная частка яе знікла разам з помнікам.

Ці ніякая частка нікуды і не знікала, бо я, калі першы раз мераў, знарок памыліўся ў сваім меранні?!

Мусіць, што так.

Дзеля мастацкага эфекту дадаў тады гэтыя няісныя восем крокаў, каб утварылася яно — архітэктурнае адлюстраванне кароткага Апалінэравага веку.

Зрэшты, вуліца — вуліцай; якой бы ні была даўжыні, але яна ёсць.

А вось помнік...

У абацтве нам паведамілі: скульптуру ўкралі.

Летась.

Мусіць, адначасова паквапіліся на ўсё: і на тое, што гэта праца Пікасо, і на тое, што гэта выява Апалінэра, і на тое, што гэта бронза...

Мне пашанцавала, — я не хацеў быць пераможна банальным і не стаў ім.

Невядомыя зладзеі дапамаглі, і таму фінал майго вуснага апавядання атрымаўся па-сапраўднаму нязвыклым.

Шведская пісьменніца Інга-Ліна Ліндквіст выйграла заклад.

Аднак жа яна не хацела карыстацца выйграным.

Калі мы ішлі па мосце Мастацтваў, Інга зірнула на Луўр і кінула свой выйгрыш у Сену.

Кінуць еўра ў Сену, зірнуўшы на Луўр, — хіба што лепей за ўсё гэтак ствараецца напамін пра водар вільготнага траўня.

# Характар Арменіі

Я ведаў: калі буду пісаць пра Арменію, буду пісаць пра Цябе, бо Ты — слоўная сутнасць армянскага дыхання.

Праз Цябе я глядзеў на Твой народ...

Твой народ не ўмеў лёгка жыць, бо не квапіўся на чужое; ваюючы, не нападаў, — абараняўся; Бога насіў у сэрцы, а грошы ў кішэні, а не наадварот; плаціў крывёй за тое, каб чытаць Евангелле; вынайшаў свой алфавіт, бо чужыя літары пры вымаўленні драпалі паднябенне; у землятрусах губляў гістарычныя сталіцы, але не губляў памяць; у войнах страчваў землі і страціў мора, аднак жа не страчваў і не страціў душу; збор вінаграду заўсёды пачынаў толькі тады, калі на Малым Арараце раставаў снег...

І дзе б ні жыў, — дзяцей сваіх вучыў *сваёй* мове і, часта здаралася, называў іх Айастан*...

У Тваім народзе магчымае сышлося з немагчымым.

У Табе таксама, а найперш, — азіяцкая поўня ператваралася ў еўрапейскі маладзік, а Усход рабіўся Захадам.

Я чытаў гісторыю Твайго роднага Карса, каб зразумець той казачны ўсходне-заходні корань, які жывіў Тваё літаратурнае імя.

Ты казаў пра Карс: маўляў, места было заснавана халдзеямі, а магчыма, урартамі, але (жартаўліва ўдакладняў!) з гэтага нічога асаблівага не вынікае, бо ад таго халдзейскага ці ўрарцкага паселішча не засталося амаль ніякага знаку.

Адсюль, пэўна ж, і развагі Тваіх сённяшніх вучняў:

---

* Айастан — Арменія.

— Так, геаграфічна мы далекавата ад Еўропы і зусім блізка ад Азіі. Так, мы — Усход, але мы той Усход, якога ўжо няма...

Мяне ж, дарэчы, і гэта цікавіла: Твой край — Еўропа ці Азія?!

І што такое Арменія, калі казаць адным сказам?..

— Па духу мы еўрапейцы, а па сваім побыце пераважна ўсё ж людзі Усходу... — тлумачыла паэтычная Асмік Пагасян, частуючы мяне на беразе Аракса залацістым кіяхом.

— Арменія — гэта Еўропа з рысамі Азіі... — кажучы так, пісьменнік Давыд Мурадзян усміхаўся ўсмешкай садоўніка, у садзе якога толькі салодкія яблыкі і ніколі не патухае рубін ягонай цыгарэты.

— Мы — і Азія, і Еўропа. Карані ў нас усходнія, але крона заходняя... — паважна прамаўляў дыпламат Давыд Матэвасьян, дорачы мне далікатнае гранатавае дрэўца.

— Што такое Арменія ў адным сказе?!. Мусіць, пацалунак нашага алфавіта з вінаграднай лазой... — гаварыў, нібыта спяваў, празаік Лявон Хечаян, адчыняючы перада мной браму ў Цахкадзор.

Мае сябры адказвалі старанна і прыгожа, а мне ў іхняй стараннасці і стылёвай зграбнасці чулася новае адценне Тваёй жартаўлівасці, якую ў сваім рамане «Краіна Наіры» Ты прымусіў выказаць Марукэ Драстамацяна: «Адна справа мы, другая — еўрапейцы... Вось так...»

І словы гэтыя прагучалі як эпіграф да ўсяго таго, што я наогул пачуў у Ерэване і ў пісьменніцкім доме ў Цахкадзоры:

— ...тут коратка не скажаш, бо нам, армянам, уласцівы бясконцыя супярэчнасці... Мы не ведаем залатой сярэдзіны, — калі нешта робім добра, то гэта

выходзіць вельмі добра, а калі робім кепска, то гэта ўжо зусім кепска... Мы — або вялікія патрыёты, або звычайныя абыякаўцы... Наша геніяльная гістарычная спадчына суіснуе з нашым жа заняпадам... Шмат хто наогул не ўсведамляе сябе спадчыннікам роднай культуры... Самакрытычнасць нам не дае спакою, і таму нам утульна існаваць у «армянскіх» творах Брусава, Белага, Мандэльштама, Гросмана, Бітава і няўтульна жыць у праўдзе сваіх кніг... Мы — людзі празмерных пачуццяў, часам разгубленыя, часам няўпэўненыя і ўсё яшчэ шукаем сябе...

Гэта ж, мусіць, пайшло ад Грыгора Нарэкацы — бязлітасна *наракаць* на сябе.

Аднак такая здагадка мяне не супакоіла.

Я прыехаў з гістарычна-расцярушанай прасторы, і мне было дзіўна, нават нейк ніякавата чуць такое.

Ці не самы старажытны люд у свеце не ведае залатой сярэдзіны і ўсё яшчэ шукае сябе?!

Нацыя, сэнсава адметная ад іншых нацый, можа быць абыякавай да сваёй зямлі і можа быць *па-беларуску* разгубленай?!

Народ, якога так і не прывучылі да ярма асіміляцыі, — народ няўпэўнены і нерашучы?!

Усяму гэтаму я не даваў веры, а проста замаркочана здзіўляўся і слухаў далей, пакуль не прагучала:

— Арменія — трывога зямлі, якую мы не можам зразумець...

Гэта была сутнасна Твая думка, і ўсё раней пачутае адкрылася мне праз гэтую думку ў сваім сапраўдным сэнсе: так смела пра сябе і свой народ, у шмат разоў перабольшваючы свае недахопы, могуць казаць толькі царскія дзеці.

Дзеці рабоў не здатныя на такую адкрытасць.

Царскія ж дзеці гавораць шчыра, бо ўмеюць думаць...

Зайздроснае мастацтва ўмець думаць — яшчэ адно хараство Арменіі.

Я гэта зразумеў, слухаючы ў інстытуце астранамічных даследаванняў сівога астрафізіка, улюбёнага ў паэзію Нарэкацы і падобнага да хрысціянскага падзвіжніка.

Дзірка ў ягоным чорным чаравіку, як дзірка ў хітоне Хрыста, — не змяншала, а якраз узбуйняла маё ўражанне ад таго, што я чуў.

Астрафізік, дарэчы, у тым шаноўным веку, калі ўжо нельга займацца недаўгавечнымі праблемамі; калі набывае вагу і такая драбяза, як пісьменніцкая стомленасць.

Адданы абаронца космасу, ён жыве марай пра ідэальную шляхетнасць, да якой, на яго думку, можна наблізіцца толькі касмічным шляхам.

—... Бо космас, — казаў вучоны, — дае большы, чым можа даць зямля, маштаб думання... Бо толькі космас, якому заўсёды тоесная душа чалавека, можа адказаць на пытанне: адкуль пайшло жыццё?.. Зямля на гэтае пытанне ніколі не адкажа... Космасам нават можна выхоўваць... І наогул, каб людзі дасканала валодалі касмічнай мовай, то не дапусцілі б таго, што здарылася ў Амерыцы 11 верасня 2001 года...

Апошняя выснова, да слова сказаць, здалася нейкай ідэалістычнай празмернасцю.

Армянам, выходзіць, уласцівы не толькі празмерныя пачуцці, аднак жа і празмерныя выказванні.

Так, уласцівы, — і не толькі ідэалістычныя.

Фрык* у сваіх «Скаргах» прамовіў: «Божа, калі мой народ жыве не паводле тваіх законаў, то знішчы яго!»

---

* Фрык — паэт, які жыў у XIII — пачатку XIV стагоддзя.

Роспач паэта зразумелая: Бог забываўся бараніць яго народ, і калі, здавалася, ні ў чым не вінаваты народ раптам усё ж сам вінаваты ў сваіх няспынных бедах; калі ягоныя грахі цяжэйшыя за самыя цяжкія камяні, то...

Аднак жа на якую высокую гару адчаю трэ было ўзысці паэту, які пякельны боль прыняць у душу сваю, каб накрэсліць такія словы!

Узрушыла таксама, нават напалохала залішняя змрочнасць і сучаснага майстра, майго любімага празаіка:

— Хутка Трэцяя сусветная вайна... Бомбы будуць падаць у цэнтры Ерэвана...

Сказана было, вядома ж, пад уплывам нядаўняга бамбавання амерыканцамі Кабула, аднак жа для мяне бамбаванне Ерэвана — немагчымая рэч.

Такога проста не можа быць!

Зрэшты, хто яго ведае.

Здараюцца ж на зямлі жахлівыя дзівосы.

Невыпадкова ж іншы ерэванскі пісьменнік у адной са сваіх кніг расказаў пра маладога армяніна з Амерыкі, які (дарэчы, таксама з невераготнай празмернасцю) паведаміў журналістам: «Так, мае бацькі армяне, і я таксама па паходжанні армянін. Але гэта апошняе — проста фізіялагічная выпадковасць. Лічу непатрэбным марнаваннем часу тлуміць сабе галаву тым, з якой краіны прыехаў сюды мой бацька і што там адбывалася. Я тут нарадзіўся, і я амерыканец. Калі ж будзе вайна, і мне, лётчыку, загадаюць бамбаваць Ерэван, я тут жа выканаю загад...»

Спадзяюся, гэты заакіянскі патрыёт болей так і не ўзняўся ў неба і па сённяшні дзень выконвае адпаведную свайму розуму працу, — падмятае кухонным венікам самалётнае поле...

— Вы баіцеся смерці? — спытаўся я ў сівога астрафізіка, абедзве далоні якога чуйна ляжалі на разгорнутым «Нарэку»*.

— Не баюся... Смерць — уласцівая Сусвету эвалюцыя... Абавязкова прыйдзе канец Сусвету, канец у тым сэнсе, што Сусвет стане іншы... А ўвогуле, нельга жартаваць з жыццём...

У Цахкадзоры, у гэтым манастырскім паселішчы і ў гэтым пісьменніцкім доме, у якім, гледзячы то на Твой бронзавы помнік, а то ў сшытак, я па памяці занатоўваў пачутае ў астранамічным інстытуце, — дык вось тут, у Цахкадзоры, льга не проста ўцяміць, не толькі зразумець і метафарычна выкапаць, а нават зрокава адчуць той корань, з якога вырасла Тваё імя.

Спытаюся ў самога сябе: чаму?

І адкажу: у Цахкадзоры была ў Цябе апошняя перад арыштам, падобная на труну, ноч!

А *такія* ночы шмат што гавораць і гавораць праз дзесяцігоддзі; яны пакідаюць на зямлі жалезныя пісьмёны, а ў небе — каменныя сляды.

Толькі трэба ўмець іх прачытаць...

Сюды па Цябе прыйшла смерць.

Менавіта тут выяўна і акрэслена Ты ўбачыў уласную пагібель.

Як мёртвае збожжа, пасыпаліся крышталі смяротнага лёду.

Хто Цябе любіць, той па сённяшні дзень чуе і будзе чуць бязлітасны ледзяны звон.

А Цябе любяць усе, бо Ты пясняр паветра Арменіі...

Невідушчыя пачынаюць бачыць снег Масіса**, калі згадваюць Твае вершы; старыя маладзеюць, калі

* «Нарэк» — так армяне называюць «Кнігу смутку» Грыгора Нарэкацы.

** Масіс — армянская назва гары Арарат.

ўяўляюць Твой нораў; непрыгожыя прыгажэюць, калі прамаўляюць Тваё імя.

У такіх паэтаў, як Ты, — хараство трагедыі пачынаецца менавіта з імя, бо яно, нібыта прарочая кніга, у якой усё распісана далёка наперад — да самай апошняй зорнай кроплі.

Я спрабую перакласці Тваё імя на сваю мову і адчуваю: не варты гэтага зрабіць.

Свядома блытаю паэтычную і размоўную лексіку, нібыта карцёжнік, тасую разнамасныя словы і ніяк не магу знайсці яму сакавіты і дакладны беларускі адпаведнік...

Неўтаймоўны, неўтаймаваны, нястрымны, няўпынны, кручаны, нарваны, агнёвы, навальнічны, маланкавы, *я*сменны, шалёны, люты, раз'юшаны, раз'ятраны, утрапёны, неслухмяны, палкі, яры, злы, безразважны, свавольны...

Усё гэта быццам тое, і ўсё гэта не тое.

І наогул, мае намаганні марныя, бо ніякага перакладу быць не можа.

Ты жператварыў сваё імя ў з'яву нацыянальнага краявіду, і ў гэтым сэнсе армянскае перакладаецца толькі на армянскае, як беларускае на беларускае...

Стаміўшыся, родная прасодыя адпачывала на Тваіх вуснах; жанчыны, якія Цябе кахалі, снілі персікавую лагоду; венецыянскія галубы вучыліся ў Цябе армянскай мове, і першае слова, якое яны запомнілі, было, напэўна ж, Наіры*...

Ты — Характар Арменіі.

Ты — мноства характараў.

Вось некалькі малюнкаў-успамінаў, праз якія я ўбачыў Тваё фізічнае існаванне...

---

* Наіры — назва Арменіі ў помніках старажытнага пісьменства.

У паселішчы Гарні, у гасцінным доме тыкін* Парандзем размаўляю з яе маладым сынам.

— Саркіс, ты прыгожы.

— Я ведаю.

— А табе дзяўчаты кажуць, што ты прыгожы?

— Я не хачу, каб яны мне казалі, што я прыгожы!

— Чаму?

— Не трэба мяне хваліць!

Саркіс адказаў Тваімі вуснамі...

У нямецкім Дортмундзе ў гатэлі абакралі іспанскага паэта.

Лявон Хечаян тут жа прапанаваў засмучанаму іспанцу свае грошы.

У Лявона — Твая шчодрасць...

У Рызе разнамоўны літаратарскі гурт ідзе ў госці, — кветкі ж для гаспадыні дома купляе Давыд Мурадзян.

У Давыда — Твая шляхетнасць...

А вось ужо даўні ўспамін, — у савецкай казарме салдат Дранько-Майсюк пабіўся з салдатам Ашотам Ехтар’янам.

Першы пачынае мірыцца Ашот Ехтар’ян:

— Дранько-Майсюк, запішы мой ерэванскі адрас...

У Ашота — Твая адыходлівасць.

І самае для мяне запамінальнае: у тым жа старавечным паселішчы Гарні раптам слаба сябе адчула турэцкая паэтка Аслі Эрдаган, і ў вачах двух Давыдаў (Мурадзяна і Матэвасьяна) узнік неспакой за Аслі, — Твой неспакой.

Дарэчы, клопат пра Аслі выяўляўся і па-іншаму...

О, гэты незагойны апёк на армянскім целе ад распаленага дзікунствам асманскага жалеза!

---

* Тыкін — зварот да замужняй жанчыны.

Аднак жа з якой велікадушнай тактоўнасцю Давыд Мурадзян перапыняў усе гаворкі пра тое дзікунства, калі яны пачыналіся ў прысутнасці Аслі.

Варта сказаць: іншым разам (у недыпламатычных сітуацыях!) такую тактоўнасць даводзіцца ўзбагачаць студэнцкай дасціпнасцю:

— ...*яны* думалі, што нас перамогуць у спрэчцы, і таму пачалі з таго: Арарат, маўляў, на іхняй тэрыторыі, і што мы не павінны выкарыстоўваць Арарат, як сваю нацыянальную сімволіку. А мы ім на гэта сказалі: вы ж намалявалі месяц на сваім сцягу, хоць месяц належыць небу і ўсяму чалавецтву. Тут яны і прымоўклі...

Як гэта блізка: Арарат і характар.

У глыбіні грэчаскага слова *характар,* калі даваць гэтае слова ў беларускім напісанні, анаграмна жыве *Арарат.*

Дык вось, мне здаецца, што я зразумеў, адчуў, што такое армянскі характар, — гэта калі непазбыўны боль ураўнаважваецца шляхетнасцю, калі ў паветра не забіраецца паветра...

Ты ўмеў дыхаць, у паветра не забіраючы паветра.

З дзяцінства дыхаў дывановымі ўзорамі Карса, і ўжо тады пэўна прадчуваў, што ў Карсе болей не жыць, што ягоныя муры неўзабаве густа набяруцца роднай крывёй і ўсцяж на яшчэ жывых людзей ляжа крывавая сажа.

Як верш, ведаў на памяць ісламскі зварот да хрысціян: «Мы паверылі ў тое, што падаравана нам і падаравана вам. І наш Бог і ваш Бог адзіны, і мы яму аддаём сябе...»

Зварот амаль братні.

Невыпадковая ж яна ў ісламе — кропля хрысціянства!

Аднак жа кропля гэтая не ратавала, — гінула ў шале чырвоных лямцавых фесак.

І зварот братні не ратаваў таксама, — тануў у хвалях крывых шабляў.

І вось на свае вочы ўбачыўшы Дантаў крэматорый, Ты прагнуў нявіннаму попелу даць жыццё ў змучаным слове.

Ты нешта ведаў больш, чым іншыя, але ж ведаў і тое, што, сказаўшы пра гэта, — імя сваё ўбачыш накрэсленым жоўцю на абсідыяне.

Табе снілася: страла з абсідыянавым астрыўцом пацэліла ў Тваё сэрца, але Ты адразу не памёр, паспеў скласці ў памяці (а першыя радкі нават занатаваў на сваім споднім крывёю!) вершаваную навелу пра цікавага рымляніна Абсідыя, які даў вулканічнаму шклу сваё імя і прывёз гэтае шкло ў Карс, думаючы, што ў Карсе такога дзіва няма...

Свае першыя вершаваныя радкі Ты выклаў гранатавым насеннем на туфе, а свой апошні верш накрэсліў (як у тым сне — крывёю!) на турэмнай тканіне; накрэсліў літарамі святога Месропа Маштоца.

Гэтыя літары жылі ў сэрцы Бога; існавалі на камені, метале, папірусе, пергаменце, дрэве, пальмавым лісці, казінай шкуры і, вядома ж, на звычайнай паперы.

І вось — пачалі жыць і на турэмным адзенні.

Гэтыя літары былі і ёсць з Боскага духа, з каменю, металу, дрэва, гранатавага насення і з Тваёй крыві...

У турме Ты згадваў раман Пшыбышэўскага «HOMO SAPIENS», — кнігу, якая прымусіла Цябе сказаць самому сабе: «Я — паэт...»

Некалі ўсё Табе падабалася ў ёй, — і ніцшэанскае вар'яцтва, і разбуральная воля, і нястрымная юрлівасць галоўнага героя Эрыка Фалька, і ягоны клопат: «Дома неабходна мець морфій...»

Цябе ўражвала прастора двайнога кахання, што вынікала з рызыкоўнай высновы: «У мяне няма сумлення, таму што сумлення няма ў прыродзе...»

Табе шчасліва запаміналася думка: «...рэўнасць даводзіць да злачынства...»

І сваім акрэсленым жахам палохала труна з непамерлым «нябожчыкам», на якую ў цемры наткнуўся экзальтаваны Эрык Фальк...

Ты знаў: жыццё зменьваецца, а не зменьваецца толькі смерць, і не зменьваецца нічога ў лёсе тых, хто парабкуе ў смерці: той жа трунар Янок* заўсёды застаецца на сваім месцы, а калі не робіць труны, то зусім недалёка ад сваёй трунарні прадае каўбасу...

У дзяцінстве Цябе ўразіў нязвыклы малюнак: нейкі стары нёс на галаве жоўтую груваскую дамавіну; нёс, відаць, некаму, а можа, і сабе.

Стары гнуўся пад цяжкою ношкай у крук, і не было бачна ягонага змучанага твару.

Ты ж не меў сваёй дамавіны — ні жоўтай, ні чорнай, ні лёгкай, ні цяжкой.

Адно была ў Цябе, падобная да яе, апошняя перад арыштам ноч у Цахкадзоры.

«Быць пахаваным трэба на радзіме...» — гэтак шаптаў, пакідаючы сабе парыжскую кветку з труны Камітаса.

Быць пахаваным на радзіме — то-бок, адчуваць, як нябесны атрамант цалуе чорныя вулканічныя пацеркі; успамінаць смак чырвоных ягад сабачай шыпшыны; бачыць, як пад вострымі лёзамі пірамідальных таполяў пасвяцца худыя каровы і маленькае з белай пысай агатавае аслянё; урэшце — слухаць рачулку Азат, на камяністых берагах якой знікае прыгнечанасць.

---

* Янок — персанаж рамана Егішэ Чарэнца «Краіна Наіры».

Быць пахаваным на радзіме — цешыцца з таго, што тут застаюцца людзі і што яны моляцца Богу; моляцца скрозь, а найперш у Гехардзе, — у велічным збане храма, што схаваны ў скале і ў нябачным малацэ якога не тоне нябачная рымская дзіда...

Скрозь па краіне людзі яшчэ і гандлююць.

І, як некалі ў Тваім Карсе, гандлююць адначасова ўсім: хлебнік, напрыклад, адпускае не толькі лаваш, але яшчэ і бензін; бакалейнік разам з цукрам і перцам — дровы і венікі; садоўнік — не толькі вінаград і гранаты, аднак жа і ўпрыгожанні з абсідыяну; мяняльнік з амерыканскімі далярамі і беларускімі *зайчыкамі* прапануе карсіканскія гузікі і сіцылійскія панчохі...

А хлопчык пры дарозе прадае галубку.

Ён сын механіка, які нецярпліва чакае аўтаклііентаў ля сваёй несамавітай, відаць па ўсім, часовай будкімайстэрні, скіданай з шыферных аркушаў...

За сваю галубку хлопчык просіць тысячу драмаў.

Дастаю тысячную купюру і бачу на ёй Твой партрэт.

— Ведаеш, хто гэта? — пытаюся ў малога.

— Наш паэт...

— Прачытай ягоны верш!

Хлопчык чытае, і я слухаю Тваю мову, і вакол мяне ўсё на Тваёй мове, толькі на шыфернай будцы-майстэрні надпісы кірыліцкія.

І як тут не ўспомніць крамніка Абамарша*, — каб завабіць у сваю краму больш пакупнікоў, Абамарш аднойчы сам сабе сказаў: «Трэба шыльду перарабіць па-руску...»

Я купляю галубку і выпускаю, і яна ляціць па-над скалой, якую стагоддзі ўтварылі з туфу, базальту і граніту; ляціць па-над цагляна-жоўтай, што як вы-

* Абамарш — персанаж рамана Егішэ Чарэнца «Краіна Наіры».

паленая гліна, прасторай, адзіная зялёная пляма на якой — куст гігі, так падобны да нашага ядлоўцу.

Хлопчыкаў бацька, адарваўшыся ад сваёй будкі, падступае да мяне:

— Ты такі спакойны. Ты сваё жыццё пражыў спакойна...

І зычліва ўсміхаецца.

І я згаджаюся — і з тым, што я спакойны, і з тым, што сваё жыццё я ўжо *пражыў,* і хочацца дадаць: у жыцці і літаратуры пазбягаў і пазбягаю ўсяго неспакойнага, але люблю яго, бо неспакойнае вельмі вабіць...

Гэты механік умее бачыць.

Як і ўмець думаць, умець бачыць — таксама зайздроснае мастацтва, і яно яшчэ адно хараство Арменіі.

А хлопчык, тым часам прачытаўшы верш, зноў цярэбіць мяне, гэтым разам тулячы да грудзей маленькага з чырвонай плямкай на патыліцы жураўка.

Бацька смяецца, задаволены камерцыйным талентам сына.

Я купляю і жураўка і чую тую тужлівую песню, меладыйны сэнс якой можна пераказаць хіба што гэтак: імя дакранаецца да міфа, міф робіцца музыкай, музыка выказвае боль...

Ці даляціць жораў да радзімы, да той зямлі, дзе мараль неўміручая, бо яна не ад чалавека, — ад Хрыста...

На ветраным узвышшы, на адным з адгор'яў Тэгеніса мы дыхалі кастрычніцкай духмянасцю, і Лявон Хечаян апавядаў пра нядаўнюю вайну, на якую пайшоў добраахвотнікам.

Па сваёй волі пайсці на вайну — гэта Твой учынак; у 1915 годзе без ніякага прымусу Ты ўзяў зброю...

Лявон расказваў, як даводзілася адно паляўнічымі стрэльбамі бараніць свае дамы; як, галодны, ён аднойчы з'еў чарапаху; як самай магутнай зброяй у іхняй

валанцёрскай сябрыне быў японскі трактар, перароблены ў танк.

Казаў і пра палонных: хоць бракавала харчу, але заўсёды знаходзілі, чым іх накарміць, а пасля адпускалі, бо ведалі: перамагае той, хто адпускае палонных накормленымі і хто ваюе не за тэрыторыю, а за свае дамы.

Так (свядома ці падсвядома) выконваўся запавет Давыда Сасунцы: не забіваць пераможаных, а ўсё зрабіць, каб яны вярнуліся дамоў; такі ж быў запавет і генерала Андраніка*...

Гэта вайна скончылася няпэўным зацішшам, а тая, Твая вайна — рэвалюцыяй.

Радок за радком, страфа за страфой, старонка за старонкай, раздзел за раздзелам; урэшце, твор за творам, — Ты складаў паэмы пра Леніна, ставіў помнік чырвонаму цару, які ашчаслівіў свет папяровым багаццем волі.

І вось у нашы дні лес ленінскіх помнікаў ператварыўся ў ерэванскі крыж.

Народжаны з крыжам у душы, Ты не зганіў бы гэтае пераўтварэнне, бо самае каштоўнае ў Тваіх камуністычных паэмах — адсутнасць застыгласці.

З вышыні рэвалюцыйнай рыторыкі бачыў набліжэнне сваёй пагібелі; нават пэўна ведаў, што прыйдзе яна ў 1937-м.

Рызыкант!

Сам напрасіўся, каб Цябе правялі ў чэка.

І «праважатыя» адгукнуліся, з’явіліся ў Цахкадзор.

А можа, і не адразу сюды, — заехалі спачатку ў Раздан...

---

*Андранік Азанян (1865–1927) — народны герой, удзельнік Першай сусветнай вайны.

З гары Лявон паказаў мне, дзе ляжыць Раздан.

— І гэта таксама Раздан?

— Не, гэта ўжо вёска Макраванк.

Над плоскімі дахамі плыў белы дым, у вёсцы пяклі лаваш.

Калі па праўдзе, то я не бачыў, якія яны, плоскія ці не, — дахі ў Макраванку; іх затульваў усё той жа густы лавашны дым.

Але ж, пэўна, і тут, як і, скажам, у Араращкай даліне, дахі такія, што на іх удзень добра сушыць садавіну, а ноччу спаць, а калі не спаць, то выгодна з іх глядзець у звярыны змрок неба.

Ты любіў глядзець; любіў гэты бяздонны звярыны змрок, што гусцеў над плоскімі дахамі, пад якімі кахалі, і гусцеў над конуснымі купаламі, пад якімі маліліся.

Ноч цвяліла душу, уздымала пыл нерваў, і, дастаючы з кішэні пісталет, Ты казаў самому сабе: «О, не... Пушкін, Лермантаў, Верлен, Маякоўскі... О, не, пісталет у руцэ паэта — не смерць некаму, а проста метал злосці, якому ў пэўны момант немагчыма застацца ў думках, і таму ён апынаецца ў сціснутай далоні...»

Хаваючы зброю, пытаўся ў льва, які ахоўваў сад Наапета Кучака: хіба можна думаць, калі не думаць пра жанчыну?! — і пытаўся ў арла, які пільнаваў крыніцу Грыгора Нарэкацы: хіба можна думаць, калі не думаць пра Бога?!.

Скрозь па адгор'і саламяна залацела вярблюджая калючка, сціпла выхваляліся колкай зелянінай маленькія хвоі.

Аплеценыя нізкарослай шыпшынай, застыгла нерухомелі амаль кубічныя сіняватага колеру базальтавыя глыбы.

З апошняй, як мне здавалася, моцы трымалася за абрывісты схіл дзікая сліва, і гэтак жа натужліва напружваў свае драўняныя цяглі густалісты арэх.

А тым часам у Макраванк ішоў чалавек з мехам за плячыма; ішоў прыгожа і паважна — нячутнай ступой апостала.

Чалавек назапашваў на зіму грушы.

Мы падышлі да дрэва, ля якога ён толькі што шчыраваў.

Гэта была светлая, нібыта напоеная срэбралітным каменем, груша; сваімі салодкімі мяккімі пладамі яна карміла не толькі людзей, — а зусім як у прозе Акселя Бакунца*, — аленяў і мядзведзяў таксама.

І, відаць, ваўкоў...

У ноч арышту Ты сніў срэбнае дрэва і дванаццаць срэбных ваўкоў, у чыіх вачах палымнела золата гордасці...

І я нарэшце адчуў: Тваё літаратурнае імя, як гэта груша, — хіба што Бог і дзікія звяры могуць яго разумець...

Мы паволі спусціліся з адгор'я да пісьменніцкага дома, паўз незачыненую вартоўню падышлі да Твайго помніка, і Лявон паклаў да бронзавага ўзножжа пунсовую гронку рабіны...

Тваёй магілы няма, як і Тваёй калыскі, — засталася адно ў музейным слоіку сірочая зямля Карса.

Зрэшты, не.

Магіла ёсць.

Ты разгадаў таямніцу знікнення Хачатура Абавяна**; зразумеў, што ён нідзе, акрамя Арарата, не мог жыць

---

* Аксель Бакунц (1899–1938) — армянскі пісьменнік, закатаваны ў НКУС.

** Хачатур Абавян (1809–1848) — заснавальнік новай армянскай літаратуры і новай літаратурнай мовы.

вольна і таму патаемна яшчэ раз узышоў на Арарат і там спачыў.

На Арараце ж спачываеш і Ты...

—... іншы раз пытаюцца ў мяне, а чаму на помніку не выбіта імя паэта? — гэта азваўся, зачапіў нас вартаўнік пісьменніцкага дома. — І я заўсёды адказваю: а хіба трэба на небе выбіваць, што гэта неба?! А хіба трэба на зямлі пісаць, што гэта зямля?!

## «...піць з недапітых чаш»

Асобы

Паэт.
Ахоўнік.
Лекар.
Першы чын з ДПУ.
Другі чын з ДПУ.

Бальнічная палата. На ложку ляжыць захутаны ў коўдру Паэт. Збоч ложка — тумбачка, на якой бялее халат. Каля тумбачкі сядзіць Ахоўнік. Уваходзіць Лекар. У бакавой кішэні ягонага халата — газета.

Лекар. Чаму вы не ў халаце, малады чалавек? Так нельга...

Ахоўнік. Не чапляйцеся, доктар. (*Цягнецца па халат і накідвае яго на сябе.*) Я здымаў яго, каб не запэцкаць, бо чысціў пісталет...

Лекар. Гэта бальнічная палата.

Ахоўнік. Я ведаю, што гэта не турэмная камера.

Лекар. А хіба можна ў бальнічнай палаце чысціць зброю?.. (*Глядзіць на тумбачку.*) А гэта што за цвік такі?

Ахоўнік. Гэта шомпал. (*Прымацоўвае шомпал да кабуры.*) Я ж кажу, доктар, не чапляйцеся...

Лекар. У палаце павінен быць парадак, а хвораму трэба даць спакой.

Ахоўнік. А я што?! Лямантую тут? Гвалт узнімаю ці песні пяю?! Сяджу сабе ціха, ахоўваю, а ён... (*паказвае на Паэта*) спіць сабе і спіць, як дзіця якое.

Лекар. Няхай спіць, сон дае сілу. Спаць падзіцячы можна. Вось каб жыць гэтак... Звычайна паэ-

ты марацЬ жыць па-дзіцячы, і часам ім тое ўдаецца... Аднак не заўсёды...

А х о ў н і к. А я, як быў малы, такой галадоўлі ўхапіў, што не хочацца мне жыць па-дзіцячы. Ад'еўся толькі, калі на службу пайшоў. (*Пазяхае.*) Моташна мне тут. У горле сушыць і ў кішках пячэ. Трэція суткі таўкуся тут, а замены не даюць. Толькі харч прысылаюць.

Л е к а р. А чаму не даюць замены?

А х о ў н і к. Людзей малавата, а працы шмат. Ворагаў столькі развялося, што супрацоўнікаў бракуе. Вось і няма каму падмяніць мяне.

Л е к а р. Нічога, падменяць.

А х о ў н і к. Не, не падменяць. Гэта я ўжо пэўна ведаю.

Л е к а р. Чаму?

А х о ў н і к. А таму, што я яшчэ і па-беларуску ўмею. Сярод нашых ніхто не размаўляе. Адзін я! Мяне за гэта нават «пісьменнікам» адзін час клікалі. Смех ды й годзе... Дык вось, загадалі, каб гэта... (*паказвае на Паэта*) калі ён прачнецца, я паразмаўляў з ім на ягонай мове і што-небудзь выведаў...

Л е к а р. Вы шмат гаворыце, малады чалавек...

А х о ў н і к. А мне дазволена шмат гаварыць!

Л е к а р (*крыху збянтэжана*). Ну, гэта ўжо так... Ну, калі загадалі, то так і павінна быць... (*Больш спакойным голасам.*) Толькі размаўляць з хворым ці па-руску, ці па-беларуску яшчэ рана...

А х о ў н і к (*раздражнёна*). Гэта ўжо як-небудзь, доктар... Не ваш клопат... Па-руску ці па-беларуску... Можна сказаць, стары чалавек, а гаворыце такое... (*Мякчэйшым голасам.*) А вось цікава мне: чаму вы па-беларуску гамоніце?

Л е к а р. А што ж мне, даражэнькі, па-тунгуску гаманіць?! Я ж беларус...

А х о ў н і к. Падазрона гэта ўсё, падазрона...

Л е к а р (*аглядаючы Паэта*). Чаму падазрона?! Вы ж таксама размаўляеце па-беларуску?

А х о ў н і к. Я — гэта іншае... Я ж вам сказаў: мне дазволена шмат гаварыць! І мне дазволена па-ўсялякаму размаўляць! Я служу... (*Памаўчаў.*) Але добра, не будзем далей... Скажу вось пра што... За гэтыя дні, доктар, вы мне ў душу ўпалі. Праўду кажу. Добры вы нейкі... Ну, і не без таго, не забываеце пачаставаць мяне... Таму па-сяброўску параю вам... (*Прыкладае ўказальны палец да рота.*) Не размаўляйце многа...

Л е к а р (*аглядаючы Паэта*). Шчыра ўдзячны вам, даражэнькі...

А х о ў н і к. Ну, як ён там? Усё ніяк не ачомаецца. Трэба ж... Гахнуў сябе нажом у жывот! І навошта?! І што чалавек думаў сабе?! Небарака...

Л е к а р. Мусіць, жыць не хацеў...

А х о ў н і к. А з-за чаго? Не разумею... Ну, выклікалі некалькі разоў на допыт; ну, крыху напалохалі, але не пасадзілі ж! Заўсёды дамоў адпускалі. Падпісаў бы, што трэ было, дапамог бы нам, і ўсё на гэтым. Аднак жа не, адразу чамусьці за нож ухапіўся. Гонар свой паказаў. Толькі клопату ўсім нарабіў. Начальства зусім азвярэла. І я вось тут пры ім, як прывязаны... Моташна мне... (*Вымае з кішэні Лекара газету.*) Хоць газетку пачытаю... Пра каго тут пішуць?!

Л е к а р (*не здзівіўшыся з паводзін Ахоўніка*). Не ведаю, не паспеў прачытаць... Хворы хутка апрытомнее. З ім трэба далікатна абыходзіцца. Не даймайце яго роспытамі.

А х о ў н і к (*раздражнёна*). Я, здаецца, сказаў ужо: не ваш клопат. Вы сваё зрабілі, доктар, вярнулі яго

да жыцця. А мы яго паставім на патрэбную дарогу... (*Больш лагодным голасам.*) Пачакайце, доктар... Можа, яшчэ крыху спірціку... Га?

Л е к а р. Трохі пазней... Тут мне званілі... Ад вас... Ну, з вашай установы... Я так мяркую, сёння нехта з вашага начальства завітае... Так што павінен быць парадак...

А х о ў н і к. Добра, добра, доктар, рабіце сваё, а я пачакаю.

Л е к а р выходзіць. Ахоўнік унурваецца ў газету.
Тым часам Паэт прачынаецца.

П а э т. Я, здаецца, спаў?! Што са мною было?.. Былі нейкія людзі... Шмат чужых людзей... І боль... Страшэнны боль... І зараз усё баліць...

А х о ў н і к. Добры дзень, таварыш Купала.

П а э т. Хто вы?

А х о ў н і к. Я — камсамолец... Я на службе тут...

П а э т. На службе тут?!.

А х о ў н і к. А як жа, на службе... Але не толькі... Як бы гэта сказаць... Во! Я сімпатыю да вас адчуваю... У школе чытаў вашы вершы. (*Дэкламуе.*)

Гэй, узьвейце сваім крыльлем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасьцю хаўтурнай!..

Вось так, таварыш Купала... Бачыце, я люблю паэзію...

П а э т (*заплюшчыўшы вочы*). Любіце паэзію...

А х о ў н і к. Вы не хочаце са мной размаўляць? Разумею. Вы яшчэ не акрыялі, не зусім ачунялі. Адпачніце крыху... Мне казалі: вы не любіце размаўляць, што вы не вельмі гаваркі. А вось я пагаманіць люблю і пачытаць люблю. У школе вашы вершы чытаў, а

калі на службу пайшоў, то ў газеты ўлёг... (*Разгортвае газету.*) Дык што пішуць?.. Што тут цікавага такога?.. Вой, таварыш Купала, пра вас пішуць! Далібог, пра вас! Каб хоць раз пра мяне напісалі! Дык не, ні разу! Як я вам зайздрошчу, таварыш Купала! Пра вас пішуць у кожнай газеце! Вы такі славуты!

П а э т (*расплюшчвае вочы; прамаўляе з балючай ironiяй*). Я такі славуты...

А х о ў н і к. Вось паслухайце. (*Чытае.*) «...на другі ж дзень пасьля захопу рабочымі, пры дапамозе сялянства, улады беларуская буржуазія, разам са сваімі ідэолёгамі і дробна-буржуазнымі падпяваламі тыпу Купалы...» (*Пачынае кашляць.*) Што?.. Што?!. Нешта я не ўцяміў што да чаго... Ага «...беларуская буржуазія, разам са сваімі ідэолёгамі і дробна-буржуазнымі падпяваламі тыпу Купалы, распачала актыўную вайну супраць рабочых і сялян, аб'ядналася разам з буржуазіяй, монархічна-чорнасоценным элемэнтам усіх нацый...» (*На хвіліну згортвае газету.*) Вось яно што! А я не ведаў, таварыш Купала, усяго гэтага...

П а э т. Колькі вам гадоў?

А х о ў н і к. Дваццаць, а што?!

П а э т. Хай пра вас ніколі не пішуць у газетах...

А х о ў н і к. Але ж у газетах заўсёды пішуць праўду!

П а э т. Пішуць усё...

А х о ў н і к. Я люблю газеты!

П а э т. Любіце газеты...

А х о ў н і к. А як жа... (*Разгортвае газету, чытае.*) «...А калі пан Пілсудзкі «ўшанаваў» Менск — і сам асабіста зьявіўся сюды, дык уся нацыянал-дэмакратычная капэля навыперадкі бегла лізнуць яму боты, цалаваць полы ў пана, выказаць сваю адданасьць яму. Нават такі карыфей, як Янка Купала, і той ня ўнік спакусы. У дзень прыезду Пілсудзкага ў Менск Купала надру-

каваў оду «Паўстань», у якой заклікаў Пілсудзкага да ўладарства...» (*Перапыняе чытанне.*) За такое, таварыш Купала, вас і таварышам нельга называць!

П а э т. У вас ёсць бацькі?

А х о ў н і к. Загінулі ў бежанстве...

П а э т. А хто вас гадаваў?

А х о ў н і к. Чэкісты!

П а э т. Нехта заўсёды некага гадуе... Дык што там далей надрукавана?

А х о ў н і к (*чытае*). «...для сваіх «жаўнерыкаў» нацыянал-дэмакратычныя баяны пісалі баявыя і паходныя маршы і песьні, услаўлялі поэзыяй пагромны шлях «нацыянальнага войска». Той-жа Янка Купала ў «боевой трясучке», як гаварыў Дзям'ян Бедны, надрываў свой голас:

І мы ў шапку спаць ня будзем,
І пакажам сьвету, людзям,
Як баронім межы родны
Ад напасьці ад нягоднай...

Гэта значыць, ад бальшавікоў...» (*Спыняе чытанне. Дастае пісталет.*) За такое трэба знішчаць! Вы — сапраўдны вораг!

П а э т. Вы — беларус?

А х о ў н і к. Беларус!

П а э т. Беларус павінен любіць беларуса...

А х о ў н і к. Любога?!

П а э т. Нас мала, нам трэба шанаваць сваё і сваіх...

А х о ў н і к. Ну, не! (*Тыцкае пісталетам у газету.*) Беларускую буржуазію шанаваць не буду, а буду забіваць!

П а э т. Што ў гэтым новага, калі беларус забівае беларуса?!

За дзвярыма — шум, чуецца ўстрывожаны голас Лекара: «Без халатаў сюды нельга!» Уваходзіць Л е к а р, несучы халаты, і д в а ч ы н ы з ДПУ. П е р ш ы ч ы н трымае вузкую кардонную каробку, Д р у г і ч ы н трымае шклянку. Убачыўшы такіх візіцёраў, Паэт нацягвае на сябе, да самых вачэй, коўдру. Ахоўнік жа тым часам хавае пісталет, падхопліваецца, хоча далажыць, але адзін з чыноў паказвае рукой: не трэба!

Л е к а р. Таварышы, я вам яшчэ раз кажу: надзеньце, калі ласка, халаты! Без халатаў уваходзіць у палату нельга!

П е р ш ы ч ы н. А вы, доктар, смелы чалавек.

Д р у г і ч ы н. Вы хіба не бачыце хто мы?

Л е к а р. Бачу, але я ведаю свае абавязкі.

П е р ш ы ч ы н. Вам тэлефанавалі?

Л е к а р. Гадзіну таму...

Д р у г і ч ы н (*здзекліва*). Выходзіць, што вы падрыхтаваліся.

Л е к а р (*падаючы халаты*).Выходзіць... падрыхтаваўся...

П е р ш ы ч ы н (*паблажліва ўсміхнуўшыся*). Добра, давайце сваю амуніцыю.

Чыны бяруць халаты і накідваюць іх на сябе.

Д р у г і ч ы н. Таварыш Купала, як вы сябе адчуваеце?

П а э т. Як і заўсёды...

П е р ш ы ч ы н. Загадкамі гаворыце...

П а э т. Звычайнымі словамі...

Д р у г і ч ы н (*з удаванай весялосцю*). А я не веру, што звычайнымі! У паэтаў жа ўсе словы незвычайныя!

П е р ш ы ч ы н. Учынкі таксама...

Д р у г і ч ы н. Што праўда, то праўда! Ваш учынак, таварыш Купала, можна сказаць, вельмі незвычайны...

П е р ш ы ч ы н (*да Ахоўніка*). Ці былі ў таварыша Купалы просьбы?

А х о ў н і к. Не, ніякіх... Я чытаў таварышу Купалу газету...

Д р у г і  ч ы н. Гэта добра, што вы чыталі газету...

П е р ш ы  ч ы н. Таварыш Купала, калі вы апошні раз былі ў Варшаве?

П а э т. У дваццаць сёмым годзе...

Д р у г і  ч ы н. Якое супадзенне! У гэтым жа годзе ў Варшаве быў забіты савецкі паўпрэд Войкаў!

Л е к а р. Калі ласка, таварышы, ніякіх пытанняў! Хворы яшчэ вельмі слабы!

П е р ш ы  ч ы н. Не хвалюйцеся, доктар, мы толькі на адну хвіліну.

Д р у г і  ч ы н. Так, так, доктар, мы завіталі толькі на адну хвіліну...

П е р ш ы  ч ы н. Маем вельмі прыемнае даручэнне.

Д р у г і  ч ы н. Гэта даручэнне Урада Рэспублікі.

П е р ш ы  ч ы н. Нам даручана, таварыш Купала, уручыць вам асабіста гэтыя падарункі. Жадаем вам хутка паправіцца. Да сустрэчы!

Ставяць на тумбачку прынесенае і выходзяць.
Л е к а р  выходзіць таксама.

А х о ў н і к (*сядае*). Ну, вось... Вам падарункі, а мне адна ласка — сядзі тут, марней. Мне ніхто яшчэ ў жыцці нічога не падараваў. А хіба я не заслужыў? Я ж за Савецкую ўладу! Дык не, Савецкая ўлада робіць вам падарункі! А за што вам?!. Вы ж не падпісалі патрэбную паперу! Ух-ух, натаміўся я, моташна мне! Хоць бы пастраляць. (*Дастае пісталет.*) Шкада, нельга страляць. Выходзіць, што вы там... (*Паказвае пісталетам у столь.*) Вы там яшчэ некаму патрэбны!.. Патрэбны? Не маўчыце, скажыце хоць што-небудзь?! Мне весялей будзе...

П а э т. Вы жанаты?

А х о ў н і к. Ды дзе там, яшчэ не паспеў. Але ажанюся, бо сына хачу!

П а э т. Сына хачу... (*Прагаворвае, нібыта сам сабе.*) «З інакшай думкай пойдзе ў сьвет і людзі патомак гэны наш: зьгібацца ўжо ня будзе і ня будзе піць з недапітых чаш».

А х о ў н і к. Што?!. А-а... Гэта вы верш прачыталі...

П а э т. Падумаў пра будучага сына...

А х о ў н і к. А вы не злы чалавек. Я таксама не злы. Праўда, магу пісталетам памахаць, юху спусціць. І застрэліць магу! Але я не злы. Я і пашкадаваць магу. Ну, тых, хто супраць Савецкае ўлады, я не шкадую. Напрыклад, вас. У газеце ж праўду напісалі, што вы з Пілсудскім былі. Чыстую праўду!

П а э т (*глядзіць на тумбачку*). Што гэта за падарунак такі дзіўны?!. Шклянка, каробка...

А х о ў н і к (*бадзёра*). А зараз паглядзім! (*Кладзе пісталет на тумбачку, раскрывае каробку.*) О, дык тут пляшка віна! (*Дастае дарагую бутэльку і з прыкметнай зайздрасцю круціць яе ў руках.*) Не па-нашаму напісана. Буржуйскае віно. Ніколі пляшку такую не бачыў і віна такога ніколі не піў!

П а э т. Але чаму яны прынеслі і шклянку?! (*Спахмурнела.*) Віно з адной шклянкай не дораць!

А х о ў н і к. Чаму гэта не дораць?! Дораць! Урад падумаў: а раптам вам не будзе ў што наліць! Словам, шклянка для таго, каб не шукаць шклянку, не марудзіць, а выпіць адразу. Аднак жа вам нельга...

П а э т. Нельга...

А х о ў н і к. А давайце я вып’ю?!. Га? Магу выпіць і за ваша здароўе?! Вы хоць і Пілсудскаму служылі, але вы не злы... Так што можна і за ваша здароўе...

П а э т. Вы любіце віно?

А х о ў н і к (*радасна*). Яшчэ як! І не толькі віно! А вы?

П а э т. Я таксама люблю....

А х о ў н і к. Ну, вось бачыце! Але вам нельга... А я засмяг ужо, смага так і душыць. А доктар нешта не нясе... Вып'ю і, можа, разгавару вас... А то неяк не лепіцца ў нас гаворка...

П а э т (*нібыта сам сабе*). «З інакшай думкай пойдзе ў сьвет і людзі патомак гэны наш: зьгібацца ўжо ня будзе і ня будзе піць з недапітых чаш».

А х о ў н і к. Што?!. А-а... Гэта вы зноў свой верш чытаеце...

П а э т. Чытаю свой верш...

А х о ў н і к. Чытайце, чытайце... А мне, можна сказаць, пашанцавала... «Калі шанцуе, то і Халімон танцуе!» — спяваў адзін дзядок, калі яго з амерыканкі вялі ў цялятнік... (*Дастае шомпал, пратыкае ў сярэдзіну пляшкі корак, налівае поўную шклянку і прагавіта п'е.*) У-у-ух, смаката якая! Не, ніколі я такога віна не піў! І пляшку такую не бачыў ні разу! І навошта вы сабе нажом у жывот гахнулі?! Усё нам толькі сапсавалі, усё... (*Раптам пачынае задыхацца, сінець, падае на падлогу і канае.*)

П а э т (*спрабуе крычаць*). Доктар, доктар!.. Памажыце чалавеку!.. Чалавек памірае!..

З а с л о н а.

# Кнігі Леаніда Дранько-Майсюка:

1. *Вандроўнік* : вершы / рэдактар Р. Барадулін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1983. 48 с. Наклад 2000 асобнікаў. (Серыя «Першая кніга паэта».)

2. *Над пляцам* : вершы / рэдактар Р. Барадулін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1986. 88 с. Наклад 2700 асобнікаў.

3. *Тут* : вершы, паэмы, эсэ / рэдактар Р. Барадулін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1990. 216 с. Наклад 2750 асобнікаў.

4. *Проза радости* : стихи и поэмы / редактор П. Кошель ; перевод с белорусского В. Тараса, М. Шелехова, Ю. Кабанкова, И. Котлярова, Ф. Ефимова, О. Щедриной, В. Казакевича, В. Артемова, М. Попова, С. Кузнецовой, М. Вирты, Р. Лапушина, В. Чубура. Москва : Советский писатель, 1991. 160 с. Тираж 4000 экземпляров.

5. *Пра тое, як я...* : 13 несур'ёзных апавяданняў / рэдактар Р. Барадулін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1992. 112 с. Наклад 2600 асобнікаў.

6. *Акропаль* : паэзія, эсэ / рэдактар Р. Барадулін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1994. 192 с. Наклад 3000 асобнікаў.

7. *Стомленасць Парыжам* : вершы і эсэ / рэдактар В. Хлебавец. Мінск : Мастацкая літаратура, 1995. 192 с. Наклад 2000 асобнікаў.

8. *Гаспода* : выбранае / рэдактар В. Хлебавец. Мінск : Мастацкая літаратура, 1998. 384 с. Наклад 4000 асобнікаў. («Залатая серыя» «Паэзія XX стагоддзя».)

9. *Места і свет* : вершы / рэдактар У. І. Лапцёнак. Мінск : Беларускае таварыства «Кніга», 2000. 248 с. Наклад 1000 асобнікаў.

10. *Паэтаграфічны раман* : вершы, проза / рэдактар А. У. Лапцёнак. Мінск : Беларускае таварыства «Кніга», 2002. 112 с. Наклад 3000 асобнікаў.

11. *Вершы. Каханне. Проза* : выбранае / адказны за выпуск Ю. Хацкевіч. Мінск : Харвест, 2003. 304 с. Наклад 1500 асобнікаў.

12. *Белая вежа* (вместе с Юрием Кабанковым) : стихотворения, письма / вступительное слово В. Тыцких ; ответственная за выпуск Л. Качанюк. Владивосток, 2004. 124 с. Тираж 300 экземпляров.

13. *Цацачная крама* : кніжка для вялікіх і малых / рэдактар Барыс Пятровіч (Сачанка). Мінск : Медисонт, 2008. 128 с. Наклад 1000 асобнікаў. (Серыя «Бібліятэчка часопіса *Дзеяслоў*».)

14. *Анёлак і я* : апавяданне / рэдактар Э. Акулін ; уступнае слова Уладзіміра Някляева. Мінск : Галіяфы, 2009. 96 с. Наклад 1000 асобнікаў.

# Змест

## Раздзел першы



## Раздзел другі



## Раздзел трэці

**Раздзел чацвёрты**

**Раздзел пяты**

**Дранько-Майсюк, Л.**

Д72 Кніга для спадарыні Эл : проза, вершы, п'еса / Леанід Дранько-Майсюк. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 200 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 27).

ISBN 978-985-7007-68-4.

Багацце спадарыні Эл бадай што роўнае багаццю каралевы Боны і характар такі ж...

Аўтар упэўнены: цвярозы погляд на каханне гэтак жа патрэбны, як і рамантычны погляд, а ў паэзіі праўдзівы той, хтоператварыў сваю маладосць з узроставай катэгорыі ў эстэтычную, упрыгожыў яе памяркоўнасцю і абараніў ад зайздрасці...

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 64(4Беи)-5**

Партрэт Леаніда Дранько-Майсюка
работы Джона Кунстадтэра
(для budzma.org)

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 27

**Дранько-Майсюк** Леанід

**КНІГА ДЛЯ СПАДАРЫНІ ЭЛ**

*Проза, вершы, п'еса*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактары *А. Пашкевіч, Б. Пятровіч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 3.05.2012. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,25.
Ул.-выд. арк. 4,94. Наклад 500 ас. Зак. 315.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.